19 сакавіка 2021 | № 11 (719)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

Пытанні і адказы з гісторыі БНР
стар. 10

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ




# Чаго чакаць ад 25 сакавіка?

Пётр КУЗНЯЦОЎ

**Шчыра адказваю: не ведаю. Ёсць здагадкі і думкі, але я не хачу іх агучваць хоць бы дзеля таго, каб яны не паўплывалі на чыйсьці настрой.**

Але ёсць адна рэч, якую я ведаю, — дакладней, пераканаю, што ведаю. Асацыяваць так чаканую многімі другую хвалю пратэсту і магчымыя перамены з канкрэтнай датай, няхай гэта будзе 25 сакавіка ці любая іншая, — велізарная памылка або, як варыянт, вынік наўмысных інфармацыйных маніпуляцый з боку спецслужбаў.

Восенню і зімой, калі стала відавочна, што пратэст ідзе на спад, пра другую хвалю вясной загаварылі многія. Я не памятаю, каб хтосьці асацыяваў Рэнесанс масавых акцый менавіта з 25 сакавіка, — такога ў прынцыпе не было. Пісалі і казалі пра тое, што пройдзе ковід, стане цёпла, прыйдуць эканамічныя цяжкасці як дадатковы фактар — пра шматлікія магчымыя прычыны, але не пра тое, што будзе нейкая дата і — бац! Усё здарыцца менавіта ў гэтую дату. Як у Новы год.

Апошняя спроба падагнаць актывізацыю пратэсту пад канкрэтны дзень была звязаная з абвяшчэннем «агульнанацыянальнай забастоўкі» 26 кастрычніка і скончылася, будзем шчырыя, даволі правальна: у страйк пайшоў у асноўным толькі прыватны бізнес, многія прадстаўнікі якога пасля жорстка за гэта паплаціліся. Акцыя не набрала моцы, не прынесла чаканага выніку і вельмі прадказальна выклікала хвалю дэпрэсіі ды дэматывацыі — і можна з вялікай доляй упэўненасці казаць, што менавіта з гэтага моманту масавыя пратэсты пайшлі на спад. Не трэба быць сямі пядзяў у ілбе, каб разумець: калі 25-га раптам не атрымаецца, а чаканні ад гэтага дня будуць высокімі, — гэта стане пачаткам не другой хвалі пратэсту, а другой хвалі дэмаралізацыі.

Другі момант, звязаны канкрэтна з 25 сакавіка. Сапраўды, як пішуць і кажуць многія, гэтая дата — сакральная для нацыянальна-арыентаваных людзей. Аднак уладай незадаволеныя значна больш шырокія колы, многія прадстаўнікі якіх наогул не задаюцца пытаннямі культурнай і цывілізацыйнай прыналежнасці. Ніхто не спрачаецца, што спроба — калі такая мае месца быць свядома — з'яднаць усю нацыю пад сцягам барацьбы з сістэмай менавіта на аснове нацыянальнай ідэі, глядзіцца добра, аднак пытанне: ці гатовыя да гэтага беларусы?

Я думаю, што ўсім цяпер важна разумець: 25 сакавіка сапраўды можа быць днём, калі незадаволеныя ў чарговы раз прадэманструюць, як іх шмат. І — пры ўдалым збегу акалічнасцяў — можа стаць днём, з якога стартуе новы віток барацьбы. Гэта можа быць, гэтага нельга выключаць.

Але не варта «вастрыць» сябе на тое, што гэта павінна адбыцца «зараз ці ніколі». Летнія і восеньскія пратэсты пазбавілі сістэму легітымнасці, падкасілі яе рэсурсы, аднак не змаглі яе знесці. Цяпер, выкарыстоўваючы тыя сілы, што засталіся, улада люта змагаецца з незадаволенымі, спрабуючы цалкам іх дэмаралізаваць, месцамі і часам нават перахопліваючы ініцыятыву. На кароткай дыстанцыі гэта прыносіць пэўны поспех, аднак у перспектыве сістэма ўсё роўна асуджаная: пазбаўленая як унутранай, так і знешняй легітымнасці, яна цяпер існуе ў рэжыме штодзённага інстытуцыйнага паслаблення, працуюць працэсы, падобныя да карозіі. Карозія раз'ядае нават тыя канструкцыі, якім не могуць даць рады нават буйнакаліберныя снарады — з гэтым нічога не зробіш.

Момант, калі пратэст зноў паднімецца і рэальна змяце зношаныя механізмы рэжыму, безумоўна, наступіць. Аднак дату яго ніхто не ў сілах прадказаць. Тут павінны сысціся некалькі фактараў. Пратэст павінен выспець да стану, калі воля да перамогі і справядлівасці, эмоцыі стануць мацнейшымі за асцярогі за сваю долю ў выпадку няўдачы. Ён павінен здэтанаваць пад уплывам нейкага магутнага імпульсу. Ён павінен не сутыкнуцца лоб у лоб з мабілізаванай сілай, а з сапраўды слабым праціўнікам.

І самае галоўнае: людзі ў гэты момант павінны быць поўныя веры. Адзін у аднаго і ў выніковы поспех. Не згубіць гэтую веру — адна з галоўных задач.

# «Кожны яго ліст нагадвае мне, хто мы і чаму прагнем свабоды»

**Больш за чатыры месяцы знаходзяцца ў зняволенні 12 студэнцкіх актывістаў, затрыманых у «чорны чацвер». Справу ўжо перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд. З гэтай нагоды Задзіночанне беларускіх студэнтаў правяло акцыю — напісанне лістоў сімвалічным «хросным» палітвязням з заклікам да міжнародных чыноўнікаў і дэпутатаў звярнуцца да беларускіх уладаў з патрабаваннем справядлівага суда і недапушчэння пазбаўлення ці абмежавання волі студэнтам.**




Фота Вадзіма Заміроўскага

Малады чалавек Яны Арабейка звярнуўся да дэпутаткі Бундэстага Германіі і дзяржаўнай міністаркі пры канцлеры Анэт Відман-Маўз. Ён распавёў, што ў Яны няма доступу да апошніх навінаў ці інтэрнэту; у СІЗА нельга перадаць кнігі, таму яна задавольваецца тым, што ёсць у турэмнай бібліятэцы.

«Я працую 8 гадзін у дзень. Усё маё жыццё завязана на Яне. Кожную суботу я нашу ёй перадачы ў СІЗА. Увесь тыдзень я думаю, што б ёй такога перадаць, бо спіс дазволенага да перадачы складаўся ў мінулым стагоддзі і перадаць магчыма далёка не ўсё. Таксама я выпісваю ёй выданні і пішу лісты. Пішу я кожны дзень, ідуць яны вельмі доўга і часта яна іх не атрымлівае. Я не магу адсачыць, якія яна атрымала, а якія не».

Сябра Аланы Гебрэмарыям Максім Кавалёў у лісце да віцэ-прэзідэнткі Еўрапейскага парламента Катарыны Барлі ўзгадаў, як пазнаёміўся з Аланай і ўпершыню здзівіўся таму, як добра яна размаўляе па-беларуску. А таксама дадаў:

«Алана ніколі не баялася казаць праўду, а ў гадзіну Х заўсёды рабіла крок наперад. Падчас парламенцкай кампаніі ў 2019 годзе яна не пабаялася стаць кандыдатам у дэпутаты, хацела быць прадстаўніком моладзі. У 2020 годзе яна далучылася да барацьбы беларусаў за свабодную, мірную, справядлівую Беларусь. Стала прадстаўніцай Святланы Ціханоўскай па справах моладзі.

Не праходзіць ні дня, каб я не думаў пра яе. Калі 12 снежня 2020 года яе затрымала КДБ, шчыра хацеў, каб на яе месцы быў я. Яна такая юная, такая светлая — баюся ўявіць, што ёй давялося перажыць у сценах турмы. Але я ведаю, што калі б быў выбар, Алана б не адступіла».

Каляжанка Ксеніі Сырамалот Саша Кузьміч накіравала ліст да дэпутата Еўрапарламента Томаса Вайца. Яна напісала наступнае:

«Ксюшу забралі 12.11 — за дзень да нашага семінара. Па аўторках і чацвяргах я працавала ў офісе, і навіны пра затрыманні — спачатку Аланы, пасля Ксюшы, а пасля і іншых — я прачытала там. Такога масіраванага і накіраванага ўдару, які адбыўся ў той чацвер, не чакаў ніхто — ужо праз некалькі дзён тыя, хто вырашылі і ў каго атрымалася з'ехаць, сустрэліся ў Кіеве. Нас было 18, пасля 20, 23, 31, а цяпер колькасць з'ехаўшых перавяліла за 50 (толькі з нашага найбліжэйшага кола!).

Калі столькі моладзі аказваецца разам, хоць і ў цяжкіх умовах, нараджаецца шмат пазітыву. У першых лістах я пісала Ксюшы, што мы абавязкова іх выцягнем, што ўвесь свет гатовы стаць гарой за іх, што студэнцтва падтрымлівае Святлана Ціханоўская і што ў нас усё атрымаецца.

Наблізіць доўгачаканую сустрэчу ў нашых сілах. Мы са свайго боку падтрымліваем студэнцкі рух, свой маральны дух, Ксюшу — праз лісты і перадачы. За вамі — дыпламатыя, і мы верым, што ў гэтага інструмента вялікая моц. Тыранія ўкаранілася ў Беларусі 26 гадоў. Ксюшы ў снежні споўніўся 21. Спыніць гэтую несправядлівасць цяжка, але не немагчыма, калі ўсе пастараюцца».

Сяброўка Глеба Фіцнера — студэнта МДЛУ, распавяла кранальную гісторыю зменаў у настроі і характары свайго сябра ў поствыбарчы перыяд. Вось урывак з ліста да дэпутата Еўрапарламента Івана Штэфанца:

«У адну з нашых апошніх сустрэч Глеб пажартаваў, што калі будуць затрымліваць студэнцкіх актывістаў, то яго затрымаюць самым апошнім з нас. Памятаю, мы тады доўга з гэтага смяяліся, а потым я сказала, што ніхто нас не затрымае і ўсё будзе добра. Але праз 4 дні Глеб Фіцнер аказаўся за кратамі».

Ліст хроснаму Ягора Канецкага пісала яго знаёмая Дар'я Рублеўская. Яна распавядала дэпутату Бундэстага Оліверу Лукшычу пра тое, як яны з Ягорам разам навучаліся ў ліцэі і як выпадкова сустрэліся 1 верасня.

«Ягор піша мне лісты. А я пішу лісты Ягору. Да апошняга часу гэта нават было сістэмна: раз на месяц я атрымлівала вялікі ліст з жартамі і закрэсленымі каракулямі, аповедамі пра турэмны быт і валёнкі, якія яму перадалі сябры. Ведаеце, мы нават дамовіліся аднойчы чытаць адну і тую ж кнігу, «Завадны апельсін» Энтані Бёрджэса. Гэта смешна, канешне, калі паглядзець у перспектыве: спачатку мы адказваем адно аднаму на сторыс у Інстаграме, а потым намагаемся максімальна прыгожа намаляваць смайлік у папяровым лісце. Не пра такі вобраз рамантычнай маладосці і пра такія студэнцкія часы мы марылі адназначна.

Але разам з гэтым Ягор — вялікі малайчына. Ён проста жалезабетон, я б сказала. Кожны яго ліст нагадвае мне, хто мы і чаму прагнем свабоды. Ён не перастае жартаваць і аналізаваць, чытае кнігі і нават стаў камерным бібліятэкарам».

Сяброўка Таццяны Якельчык, затрыманай 26 лістапада, распавяла пра тое, як яны вучыліся разам на адным факультэце і як яна дагэтуль часцяком дастае тэлефон, каб напісаць ёй нешта важнае, забыўшыся на зняволенне сяброўкі. Так, Ангеліна дадае ў лісце да Ніла Рычманда, дэпутата Ніжняй палаты Парламента Ірланды:

«У адзіным атрыманым мною лісце ад Тані яна пісала, што ёй вельмі не хапае малочных прадуктаў. У турме іх проста не даюць. І гэта, вядома ж, адбіваецца на здароўі зняволеных. Але здароўе зняволеных — адно з апошніх, пра што будуць думаць улады нашай краіны. Мацней нашкодзіць людзям — якраз іх мэта.

Памятаю, Таня раней казала, што яна ўжо дакладна не змагла б пражыць у турме. Але дзякуючы яе моцнаму характару яна спраўляецца. Таня цяпер вельмі шмат чытае, таму што іншых забавак у камеры, па сутнасці, і няма. Яна сядзіць зачыненая ў чатырох сценах, і ў яе няма нічога, акрамя кніг, рэдкіх прагулак і зносін з суседкамі па камеры».

Лізавета Даўгулевіч, сяброўка Касі Будзько, пісала да яе сімвалічнай хроснай — дэпутаткі Еўрапарламента Маркеты Грэгаравай:

«Я думаю пра Касю штодзень, таму што я намалявала яе партрэт і павесіла над ложкам, і кожны раз, прачынаючыся, я машынальна гляджу на яе. Час ад часу я перачытваю яе думкі з лістоў, якія публікуюць у інстаграм kajusizo. Але больш за ўсё мне падабаюцца малюнкі, якія яна стварае ў турме. Я веру, што пройдзе час, і мы зможам надрукаваць кнігу з вялікім тыражом, дзе будзе сабрана ўся Касева творчасць за гэты перыяд.

Я памятаю амаль кожную гадзіну 12 лістапада. І ўжо ніколі не забуду. Я памятаю штохвілінна момант, калі ехала да дома Касі, каб праверыць, чаму яна не адказвае на паведамленні, але... не паспела.

Вельмі спадзяюся, што засталіся лічаныя дні — і Кася, як і іншыя палітзняволеныя студэнты, будзе на свабодзе. Кася не злачынца і ніколі ёй не была».

Студэнты не спыняюцца ў змаганні за свабоду сваіх сяброў і сяброўак.

# Акумулятарны завод у Брэсце прызналі адпаведным патрабаванням экалагічнай бяспекі і эксплуатацыйнай надзейнасці

**Прыёмная камісія па ўвядзенні ў эксплуатацыю акумулятарнага завода пад Брэстам завяршыла працу. Прадпрыемства атрымала поўны пакет дакументаў, якія пацвярджаюць адпаведнасць патрабаванням экалагічнай бяспекі і эксплуатацыйнай надзейнасці. Пра гэта 15 сакавіка паведаміла прэс-служба ТАА «Акумулятарны Альянс».**

Пусканаладачныя работы на заводзе стартавалі ў пачатку кастрычніка мінулага года. Спецыялісты правялі індывідуальныя выпрабаванні і комплекснае апрабаванне ўсяго тэхналагічнага абсталявання і інжынерных сетак пры працы ў штатным рэжыме пад поўнай нагрузкай.

З 5 кастрычніка 2020 года па 1 сакавіка 2021-га былі ўзятыя больш за 210 пробаў і вымярэнняў выкідаў забруджвальных рэчываў ад крыніц, размешчаных на прадпрыемстве.

«Вынікі вымярэнняў паказалі адпаведнасць фактычных канцэнтрацый выкідаў, са шматразовым запасам, устаноўленым прадпрыемству нарматывам дапушчальных выкідаў, асабліва па выкідах свінцу і яго злучэнняў, а таксама сернай кіслаты», — паведамляе прэс-служба прадпрыемства.

Акрамя таго, каждуць на прадпрыемстве, работнікі абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі правялі лабараторныя выпрабаванні фізічных і хімічных фактараў вытворчага асяроддзя на ўсіх працоўных месцах прадпрыемства. Па выніках выпрабаванняў пацверджана поўная адпаведнасць умоў для персаналу патрабаванням санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства.

Нагадаем, што летам 2020-га Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з тымі, хто пратэставаў супраць будаўніцтва акумулятарнага завода, паабяцаў, што лёс прадпрыемства вырашыць мясцовы рэферэндум. Пасля гэтага прайшлі некалькі сустрэч актывістаў з уладамі.

Апошні раз праціўнікі завода сустракаліся 12 кастрычніка з намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама Генадзем Барысюком. Ён падкрэсліў, што ўлада не адмаўляецца ад сваіх абавязацельстваў па правядзенні рэферэндуму, пісала газета «Заря».

Брэсцкі праваабаронца Раман Кісляк паведаміў TUT.BY, што цяпер ідзе актыўная праца па правядзенні мясцовага рэферэндуму пра лёс завода.

— Ужо сфарміраваная ініцыятыўная група з 14 чалавек і пададзеныя дакументы на яе рэгістрацыю ў Цельмінскі сельвыканкам. Таксама сабралася больш за 40 чалавек у ініцыятыўнай групе па Брэсце. Мы маем намер сабраць па горадзе як мага больш чальцоў у ініцыятыўную групу і падаць дакументы на рэгістрацыю ў Брэсцкі гарвыканкам. Наша прапанова — правесці мясцовы рэферэндум на тэрыторыі Брэста і Цельмінскага сельсавета, дзе размяшчаецца прадпрыемства. Пытанне на галасаванне мы прапануем такое: «Ці згодныя вы на размяшчэнне і эксплуатацыю на тэрыторыі Брэсцкага раёна ў непасрэднай блізкасці да горада Брэста завода свінцова-кіслотных акумулятарных батарэй ТАА "Акумулятарны альянс" (былое ТАА "АйПауэр")». Днямі мы павінны атрымаць адказ ад Цельмінскага сельвыканкама наконт рэгістрацыі ініцыятыўнай групы.

Нагадаем, будаўніцтва акумулятарнага завода выклікала хвалю незадаволенасці ў жыхароў Брэста і некалькіх вёсак Брэсцкага раёна. Яны лічаць, што прадпрыемства пагражае іх здароўю.

14 чэрвеня 2019 года Брэсцкі аблвыканкам апублікаваў на сваім сайце распараджэнне губернатара Анатоля Ліса аб прыпыненні будаўніцтва акумулятарнага завода «да ліквідацыі выяўленых парушэнняў».

22 траўня 2020 года акумулятарны завод пад Брэстам ТАА «АйПауэр» выведзены з-пад кантролю Групы кампаній «1AK-GROUP» — прадалі 100% долі ў статутным фондзе ТАА «АйПауэр». У выніку завод атрымаў найменне ТАА «Акумулятарны Альянс». 85% долі кампаніі належаць Сяргею Кагановічу, а 15% — Дзмітрыю Баскаву.

25 верасня 2020-га распараджэнне старшыні Брэсцкага аблвыканкама Анатоля Ліса аб прыпыненні будаўніцтва акумулятарнага завода прызнана страціўшым сілу.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошы ў ссінелых пальцах

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Аптымістычных навінаў для ўлады няма. Затое песімізму — хоць адбаўляй. Таму што няма чаго было прыніжаць, збіваць і здзекавацца з уласнага народа.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Адна з галоўных навінаў тыдня — усе дацкія інвестфонды, а таксама пенсійны фонд гэтай краіны вырашылі пазбавіцца беларускіх еўрааблігацый. Прычым, продаж абліґацый быў наўпрост звязаны з палітычнай сітуацыяй у Беларусі.

У Даніі — чатыры інвестфонды, і толькі адзін з іх, Nordea, меў беларускіх абліґацый на 30 мільёнаў долараў. Агулам эксперты кажуць, што Данія пазбавілася беларускіх каштоўных папер мінімум на 50 мільёнаў долараў.

Шмат гэта ці не? У чэрвені мінулага года Сінявокая размясціла два пакеты еўрабондаў — «Беларусь–2026» на 500 мільёнаў долараў ЗША і «Беларусь–2031» на 750 мільёнаў долараў ЗША. Такім чынам, «дацкі пакет» — гэта дзясятая частка ад еўрабондаў–2026.

На гэтым справа не спынілася. Згодна з паведамленнем Народнага антыкрызіснага кіравання (НАК), Raiffeisen Bank International AG, які быў адным з эмітэнтаў еўрабондаў Сінявокай, пагадзіўся правесці з НАК перамовы па пытанні размяшчэння каштоўных папер. Адно з пытанняў перамоваў: прызнанне «Рафайзенам» таго, што выпуск еўраабліґацый «Беларусь–2026» і «Беларусь–2031» быў неправамерны і не павінен быў адбыцца.

У гэтым выпадку ў інвестараў з'яўляецца падстава патрабаваць датэрміновае пагашэнне абліґацый. А гэта — 1,2 мільярда долараў ЗША агулам. Калі НАК усё ж даможацца свайго, гэта будзе вельмі моцны ўдар па фінансавай сістэме ўлады.

Яшчэ два тыдні таму нават разгляд такога патрабавання быў з галіны фантастыкі: палітыка — палітыкай, а інвестыцыі — інвестыцыямі. Аднак на мінулым тыдні выйшаў фільм Сцяпана Пуцілы «Залатое дно» пра тое, чым распараджаецца ў Беларусі «галоўны алігарх» і «незмывальны кіраўнік». За тыдзень кіно набрала пяць мільёнаў праглядаў. У прынцыпе, для чалавека, які «варыцца» ў палітыцы і супраціве, там асабліва нічога новага няма: 13 рэзідэнцый, залатыя ўнітазы, два персанальныя самалёты, шыкоўныя «Тэслы» ды «Майбахі», гадзіннікі Patek Philippe за шалёныя грошы... Але, па-першае, гэта ўсё ўпершыню было сабранае «пад адной абалонкай», а па-другое, калі верыць Пуцілу, на гэтыя статусныя цацкі ішлі грошы, атрыманыя Беларуссю з фондаў ЕС нібыта на «развіццё эканомікі».

У Еўрасаюзе ўжо заклапаціліся тым, што іх рэсурсы пайшлі не на развіццё краіны, а на персанальнае ўзбагачэнне яе пакуль што кіраўніка. Дэпутатка Еўрапарламента ад нямецкіх «Зялёных», сябра камітэта кантролю за бюджэтам Віёла фон Краман заявіла, што «такога не павінна быць, каб сродкі ЕС выкарыстоўваліся для асабістага ўзбагачэння», і паабяцала ініцыяваць у парламенце ЕС адпаведную праверку. Калі высветліцца, што Пуціла мае рацыю, Брусель можа запатрабаваць вяртання выдадзеных грошай.

А калі высветліцца, што інвестыцыі з еўрабондаў таксама пайшлі на персанальнае ўзбагачэнне? Вартасць беларускіх еўраабліґацый скоціцца да плінтусу, і вось тут Raiffeisen Bank давядзецца чухаць патыліцу: эмітэнтам чаго (ці каго) ён выступаў?

Але і гэта не самае кепскае. Канешне, грошы — тое, без чаго бізнес-свет немагчымы. Але даражэй за грошы ў гэтым свеце — рэпутацыя. Беларусь раней атрымлівала крэдыты і магла размяшчаць тыя самыя еўрабонды менавіта таму, што ў краіны была рэпутацыя: яна заўсёды расплачвалася па сваіх пазыках. Цяпер — на фоне праверкі ЕС, пазбаўлення фондаў ад каштоўных папер, магчымых праблем з еўрабондамі і «антыкарупцыйным» фільмам — мець справу з рэжымам будзе толькі вельмі рызыкоўны інвестар. А такіх у свеце знойдзецца няшмат.

Таксама на тыдні на «Беларуськалій» прыляцела дэлегацыя кампаніі Yara. Той самай кампаніі, якая з'яўляецца найбуйнейшым пакупніком калію ў свеце і мае кантракты з беларускім прадпрыемствам. Але ў той жа час выказвае занепакоенасць правамі працоўных і ўмовамі іх працы.

Страйкам «Беларуськалія» паведаміў, што «абследаванне» прадстаўнікамі нарвежскай кампаніі стану працоўных месцаў было на ўзроўні «пацёмкінскай вёскі». Адміністрацыя завода прыцягнула да ўборкі і навядзення парадку ў памяшканнях нават клінінгавыя кампаніі! Аднак высновы інспекцыя пакуль не зрабіла. Таму што, каб іх зрабіць, трэба было наведваць не прадпрыемства, а турмы, дзе ў той час сядзелі страйкамаўцы «Беларуськалія».

Не дзіва, што ў такіх умовах «Беларуськалій» дэмпінгуе на рынку ўгнаенняў. Набываць яго прадукцыю па рэальным кошце ніхто не будзе. Дый нават са зніжкамі — ёсць пытанні. У той жа Yara, напрыклад. І кошт гэтага пытання — 1,8 мільярда долараў.

Канешне, усё «замежнае» — ціск, адмова ад еўрабондаў — было б немагчыма без працягу ўнутранага пратэсту. Раніцай 13 сакавіка міліцыя затрымала чатырох мінчанак, якія, па іх інфармацыі, мелі намер развесіць улёткі ў падтрымку палітвязняў. Суд без разгляду накіраваў пратаколы на дапрацоўку.

У Мінску падчас святкавання Масленіцы ў нядзелю былі затрыманыя мінімум пяць чалавек. Што яны рабілі, невядома, аднак судзілі іх за несанкцыянаванае масавае мерапрыемства і непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі.

Кіраўнік страйкаму МТЗ Сяргей Дылеўскі звярнуўся да рабочых і прадстаўнікоў іншых прафесій з заклікам не выходзіць на працу з 25 сакавіка. Дылеўскі спадзяецца, што масавы страйк гэтым разам будзе больш удалым, чым спроба 26 кастрычніка. Бо, на яго думку, трываць ціск і зняваґу сваіх правоў ужо нельга.

Як адгукнуцца працоўныя, невядома. Персанальна ў мяне няма аптымізму адносна іх мужнасці. Але тым не менш, ім проста трэба ведаць і ўлічваць адну навіну.

Малдова абагнала Беларусь па заробках. Яшчэ ў 2018 годзе сярэдні заробак у Беларусі быў 420 долараў, у Малдове — 245, ва Украіне — 180. Цяпер у Малдове сярэдні заробак 520 долараў у рэальным сектары напрыканцы 2020 года, у Беларусі — 503 долары. Ва Украіне сярэдні заробак набліжаецца да беларускага — 444 долары. Але ж ва Украіне ідзе вайна!

Ці варта працаваць, каб жыць у галечы? Можа, усё ж такі набрацца мужнасці і нешта змяніць?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Андрэй Аляксандраў



**Журналіст і медыяменеджар Андрэй Аляксандраў застанецца за кратамі да 12 траўня. Тэрмін яго ўтрымання пад вартай працягнуты на два месяцы.**

Па словах адваката Антона Гашынскага, Аляксандраў трымаецца добра, следчыя дзеянні з яго ўдзелам цяпер не праводзяцца. Ён шмат чытае, займаецца спортам, ходзіць на прагулкі.

Андрэя Аляксандрава і яго дзяўчыну Ірыну Злобіну затрымалі ў студзені. Сілавікі падазраюць іх «у фінансаванні пратэснай дзейнасці». Паводле агучанай МУС інфармацыі, Аляксандраў аплаціў 250 штрафаў тым, хто атрымаў такое пакаранне ад беларускага «правасуддзя» ў выніку выказвання сваёй грамадзянскай пазіцыі. Дабрачынную дапамогу следства і лічыць фінансаваннем пратэснай дзейнасці.

Праваабаронцы прызналі Аляксандрава і Злобіну палітвязнямі.

Ірыне Злобінай, найхутчэй, таксама працягнулі тэрмін утрымання пад вартай, паколькі 12 сакавіка яна не выйшла на волю.

## Дзяніс Івашын



**Аўтар «Новага Часу», журналіст-расследавальнік Дзяніс Івашын быў затрыманы ўвечары 12 сакавіка і на два месяцы змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання.**

Вядома, што Івашын з'яўляецца падазраваным паводле артыкула 365 КК РБ — умяшанне ў дзейнасць супрацоўніка органаў унутраных спраў шляхам распаўсюджвання пра яго інфармацыі. Імаверна, гэта звязана расследаваннем «Каго ці што абараняе "Беркут" у Беларусі»: пра былых байцоў украінскага спецпадраздзялення, што збеглі ў Беларусь пасля Рэвалюцыі Годнасці.

У Дзяніса Івашына быў праведзены ператрус, яго ладзілі пяцёра супрацоўнікаў КДБ. Сілавікі забралі ўсе носьбіты інфармацыі (тэлефоны, ноўтбукі, кампутары), сім-карты, банкаўскія карткі, кнігі, нататнікі, запісы, грошы ды розную драбязу, кшталту сцяжкоў, значкаў, візітак ды інш.

Украінскае МЗС выказала занепакоенасць з нагоды затрымання Івашына, бо «журналіст і валанцёр дапамагаў распавядаць свету пра злачынствы падчас расійскай агрэсіі супраць нашай дзяржавы». Апроч таго, адзначаецца, што прафесійная дзейнасць не павінна быць падставай для пераследу.

Рэдакцыя НЧ звяртае ўвагу, што расследаванні Івашына засноўваліся на метадыцы OSINT — даследавання адкрытых крыніц інфармацыі. Адпаведна, Івашын не мог разгалошваць якую-кольвек інфармацыю пра супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, якая б не была апублікаваная ў адкрытых крыніцах раней.

## Ігар Лосік



**Кансультант «Радыё Свабода» і адміністратар тэлеграм-канала «Беларусь головного мозга» пачаў і спыніў «сухую» галадоўку.**

Лосіку 11 сакавіка было выстаўлена новае абвінавачанне. Якое — невядома, бо галоўнай навіной стала тое, што палітвязень проста на абвяшчэнні абвінавачання на вачах у следчага і адваката паспрабаваў парэзаць сабе рукі і абвясціў сухую галадоўку ў знак пратэсту.

З заклікам спыніць такія радыкальныя захады выступіла Святлана Ціханоўская і былы палітвязень, доктар юрыдычных навук прафесар Юрый Бандажэўскі.

Праз 4 дні «сухой» галадоўкі стала вядома, што Лосік яе спыніў. Цяпер ён знаходзіцца ў карцары, куды яго адправілі на 5 дзён за абвяшчэнне галадоўкі.

Нагадаем, што Лосік быў затрыманы 25 чэрвеня 2020 года. Яму інкрымінуюць удзел у масавых беспарадках і арганізацыю і падрыхтоўку дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх. Пазней яму «давесілі» новае абвінавачанне – падрыхтоўку да ўдзелу ў масавых беспарадках. У знак пратэсту Ігар Лосік абвясціў бестэрміновую галадоўку. Ён галадаваў 42 дні – і спыніў акцыю таксама пасля шматлікіх зваротаў вядомых у Беларусі людзей. «Мяне проста ўзрушыла неверагодная хваля салідарнасці, а таксама просьбы сотняў і тысяч беларусаў спыніцца, дачакацца нашай агульнай перамогі здаровым», – перадаў ён тады з-за кратаў.



**«Я гатовы і ўжо рэалізаваў свае права на форму мірнага пратэсту: калі грамадзянін перастае сваёй працай утрымліваць дзяржаву. Мая адмова ад права на працу б’е не толькі па мне, але і па дзяржаве»**

# Спыніць тое, што адбываецца, можна толькі фінансава

Таццяна ШКЛЯРЭЎСКАЯ

**Юрыст Аляксандр Капшуль распавёў «Салідарнасці» пра далучэнне да стачкі «Нафтана», звальненні і пра тое, чаму больш немагчыма жыць па-старому.**

Аляксандр Капшуль прапрацаваў на «Нафтане» амаль 20 гадоў. У пачатку снежня мінулага года юрыст далучыўся да стачкі, падтрымаўшы патрабаванні некаторых калег — новыя выбары, спыненне гвалту, расследаванне злачынстваў супраць грамадзян краіны. Праз 2,5 месяцы, 16 лютага, Аляксандра і самога звольнілі — паводле афіцыйнай версіі, за прагулы.

Цяпер ён, сябра Беларускага Незалежнага прафсаюза, плануе адстойваць правы калег, а таксама свае, у тым ліку падаўшы ў суд пазоў пра аднаўленне на працы.

— Пасля звальнення маёй калегі Вольгі Брыцікавай я вырашыў, што трэба праявіць салідарнасць. Негвалтоўнымі метадамі спыніць тое, што адбываецца ў Беларусі, можна толькі фінансава: не падтрымліваць тых людзей, якія ў дадзены момант аказаліся ва ўладзе, — распавядае юрыст. — Я абсалютна перакананы, што вынікі выбараў сфальсіфікаваныя, і ў чалавека, які знаходзіцца ва ўладзе, легітымнасці няма. Для мяне стачка стала крайняй мерай негвалтоўнага пратэсту.

На мой погляд, стачка адрозніваецца ад забастоўкі. Забастоўка — гэта арганізаваная калектыўная адмова аб працы па сацыяльна-эканамічных і працоўных пытаннях, а стачка — гэта індывідуальная мера, выкліканая ўласнага меркавання і абарона сваіх правоў, як сказана ў Канстытуцыі. Пры гэтым падзел палітыкі і сацыяльных, эканамічных, працоўных пытанняў з’яўляецца надуманым, бо палітыка — гэта дзейнасць дзяржавы, у тым ліку ў эканамічнай, сацыяльнай і працоўнай сферах.

Аляксандр, калі вырашыў далучыцца да стачкі, напісаў адпаведную заяву свайму начальніку ААТ «Нафтан». Зарэгістраваў ліст у канцылярыі і адправіў заказным лістом з паведамленнем па пошце.

— Працоўны кодэкс не ведае паняцця «стачка». Па сутнасці, гэта форма, не забароненая заканадаўствам, — тлумачыць Аляксандр. — Я абараняў тое, ува што я веру, у той форме, якая не супярэчыць заканадаўству. Патрабаванні ў свой час абвяшчала Ціханоўская, яны вядомыя: адстаўка Лукашэнкі, спыненне гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да людзей, расследаванне гвалтоўных дзеянняў, адстаўка ЦВК, вызваленне палітвязняў, правядзенне новых сумленных выбараў.

У выніку Аляксандра звольнілі 16 лютага за прагул.

— Яны палічылі маю прычыну нявыхаду на працу непаважлівай. Я планую абскардзіць гэта ў судзе, — юрыст разумее, што ў большасці выпадкаў наймальнік развязвае праблему проста — прыбірае непажаданых. — Па сутнасці, гэта так, але толькі калі зыходзіць з таго, што гэтая ўлада непарушная, і яна застанецца надоўга. Нашы дзеянні і робяцца для таго, каб не падтрымліваць тую ўладу, якую ты не лічыш легітымнай. Таму што, паводле Канстытуцыі, вышэйшай крыніцай улады з’яўляецца народ. Я як чалавек, як прадстаўнік народа, такім вось чынам рэалізоўваю сваю ўладу — шляхам стачкі.

Многія ў такім выпадку ўздыхаюць: ну вось, застанецца без работы, без заробку, як карміць сям’ю... У Аляксандра таксама ўзнікалі падобныя думкі.



**Аляксандр Капшуль: «Адзіна магчымы выхад для таго, каб у дзяржаве ўсё стабілізавалася — гэта вяртанне закона на месца»**

— Вядома, ёсць мноства стрымліваючых фактараў. Псіхалагічны — калі ты выходзіш з так званай зоны камфорту, сацыяльны — калі разумееш, што ў цябе не будзе крыніцы даходу, што табе трэба карміць сям’ю. У мяне таксама ёсць дзеці, — Аляксандр тлумачыць, што ўсё гэта мае вялікае значэнне. Але ён як юрыст разумее, што робіцца ў краіне. — Што законы ў дадзены момант не працуюць, што, адпаведна, калі не працуюць законы, у цябе не застаецца ніякіх правоў. І гэтая сітуацыя на мой погляд, значна горшая, чым тая, якая бывае проста пры страце працы. Як ні круці, працу знайсці лягчэй, чым аднавіць у краіне законнасць.

Некаторыя знаёмыя не разумелі: чаго лезці? Сядзі — добрая зарплата: усё роўна нічога не зменіш...

— Прыкладна так мне і казалі. Я адказваў, што нічога не баюся так моцна, як дыктатуры, калі ў краіне не працуюць законы. Мне значна страшней, чым проста страціць працу.

Блізкія Аляксандра ўхваляюць ягоную пазіцыю, але не гатовыя на аналагічныя дзеянні.

— Я гатовы і ўжо рэалізаваў свае права на крайнюю форму мірнага пратэсту: калі грамадзянін перастае сваёй працай утрымліваць дзяржаву. Мая добраахвотная адмова ад права на працу б’е не толькі па мне, але і па дзяржаве. Так, я пазбаўляюся крыніцы даходу, але і дзяржава не атрымлівае даход, які мае звычайна, калі я працую — падаткі, — таму што ў мяне няма заробатнай платы, няма адлічэнняў у розныя фонды. Гэта ўзаемная мера, якая ўплывае як на мяне, так і на дзяржаву.

На заяву Капшуля пра ўступленне ў стачку наймальнік не адрэагаваў — ва ўсякім выпадку, пісьмова падначаленага ні пра што не папярэдзіў.

— Яны проста звольнілі мяне праз 2,5 месяцы пасля ўступлення ў стачку. Са мной не вялі дыялог, калі не лічыць таго, што папярэдзілі пра непадаўжэнне кантракту. Ён заканчваўся ў мяне 21 лютага, але звольнілі мяне не па заканчэнні тэрміну яго дзеяння, а менавіта за прагулы, — рэзюмуе Аляксандр, удакладняючы, што такім чынам яго пазбавілі ўсіх «плюшак» (пры спыненні дзеяння кантракту па калектыўнай дамове існуюць пэўныя льготы для работнікаў, якіх Капшуль пазбавіўся. — Рэд.).

Калегі, юрысты, папярэджвалі, што, хутчэй за ўсё, гэта скончыцца яго звальненнем. І па сутнасці, заканадаўства даўно паволі рабіла немагчымым рэалізацыю некаторых правоў грамадзян. За што змагацца?

— Вядома, былі і такія размовы, разважанні. І спелі яны не першы год. Але да гэтага часу не было нейкага нахабства, як у мінулым годзе. І, адпаведна, не было такой агалоскі. Натуральна, я ведаў пра падзеі 2010 года, 1996-га. Тады я не так востра разумеў, што адбываецца, цяпер — значна лепш...

За 20 гадоў працы Аляксандр ніколі не знаходзіўся ў прафсаюзе, разумеючы, што сам здольны адстойваць свае правы. Не так даўно ён уступіў у шэрагі БНП.

— Я зразумеў, што галоўнай перавагай людзей у супрацьстаянні з тым, што адбываецца, з’яўляецца салідарнасць, — працягвае аповед юрыст, удакладняючы, што цяпер у стачку на ААТ «Нафтан» сышлі дзясяткі чалавек.

Спецыяліст разумее, што галоўнай перашкодай да выказвання ўласнай пазіцыі для многіх з’яўляецца страх.

— Я заўсёды зыходжу з таго, што будзе далей? У мяне ёсць дзеці, і я выдатна разумею, што калі такое становішча рэчаў у дзяржаве застанецца, у дзяцей не будзе ніякай прававой абароны. Але людзі павінны зразумець, супрацьстаянне дзяржавы з народам — справа вельмі выдатковая, у тым ліку яна ўплывае і на эканоміку.

Дзяржава ўжо пачынае ўтрымліваць цэны на сацыяльна-значныя тавары. Да гэтага была пастанова, што пакуль можна не ўлічваць курсавыя розніцы. Гэта значыць, дзяржава разумее, што няма грошай на інтэрвенцыі — падтрыманне курсу беларускага рубля — у яе не хапае... Плюс дзяржава марнуе золатавалютныя рэзервы для падтрымання курсу, які па факце не адпавядае рэчаіснасці. Плюс механізм, які забяспечвае стабільнасць у эканоміцы, кампенсуючы інфляцыйны працэс (а менавіта стаўка рэфінансавання) таксама не адпавядае рэаліям...

Адпаведна, усё гэта негатыўна адбіваецца на дзяржаве. І чым даўжэй гэта будзе працягвацца — тым у больш глыбокую эканамічную прорву мы зваліміся. І тым складаней будзе выкарабкацца.

Я не магу сказаць, што мне не страшна. Страху няма толькі ў псіхічна ненармальных людзей. Тут дапамагае ўсведамленне таго, што я раблю правільна. Вера ў гэта. Што адзіна магчымы выхад для таго, каб у дзяржаве ўсё стабілізавалася — гэта вяртанне закона на месца. На дадзены момант, пры такой палітычнай сітуацыі, на жаль, гэта не ўяўляецца магчымым.

Адпаведна, нейкім чынам гэта трэба мяняць. Альбо мяняць тое, што адбываецца, альбо давядзецца з’язджаць, таму што працягваць жыць у тым, што цяпер адбываецца... Я не ведаю, як гэта рабіць, гэта будзе здрадай маім дзецям.

**Пераклад НЧ**

# «Прынцыпова не хачу з’язджаць з Беларусі»

Таццяна МАТВЕЕВА

**З трэцяга красавіка не працягваюць працоўны кантракт Уладзіміру Мартаву — загадчыку аддзялення анестэзіялогіі і рэанімацыі гарадской клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі (БХМД) у Віцебску. Прапануем вам інтэрв’ю TUT.BY доктара Мартава.**

Уладзімір Мартаў у медыцыне — 30 гадоў. Кар’еру пачаў анестэзіёлагам-рэаніматолагам у Шумілінскай раённай бальніцы. Затым працаваў у 1-й гарадской клінічнай бальніцы ў Віцебску. З 2003-га — анестэзіёлаг-рэаніматолаг у гарадской БХМД. У красавіку 2016 года ўзначаліў тут аддзяленне анестэзіялогіі і рэанімацыі. Ён — прадаўжальнік медыцынскай дынастыі. Яго бацька — Юрый Мартаў — вядомы хірург, навуковец, педагог. Маці — лекар-інфекцыяніст. Дзіцячы лор — жонка, Алена Мартава.

### «Я ведаў, што кантракт са мной не працягнуць»

Нагадаем, 1 сакавіка Уладзімір Мартаў атрымаў ад адміністрацыі БХМД апавяшчэнне аб тым, што з 3 красавіка з ім не працягваюць працоўны кантракт — «у сувязі з заканчэннем тэрміну яго дзеяння».

— Гэта было чакана. Я ведаў, што кантракт са мной не працягнуць: гэта самае простае, як мяне пакараць за пазіцыю. І гэты ход — законны, не нясе ніякіх рызык для тых, хто прыняў гэтае рашэнне.

Маё непаразуменне з начальствам пачалося яшчэ ў лістападзе мінулага года, калі я сказаў у інтэрв’ю TUT.BY, што ў Беларусі не рыхтаваліся да другой хвалі каронавіруса, а закуплялі аўтазакі. Мяне тады выклікалі ў аблздраў і папрасілі: «Мартаў, калі кажаце пра палітыку, не кажаце пра медыцыну».

У БХМД паўгода не было галоўнага лекара: з канца красавіка 2020-га, калі звольнілі Сяргея Лазара, да сярэдзіны верасня, калі прызначылі Андрэя Захарава. Уладзімір Мартаў кажа, што працоўныя адносіны ў яго з новым "галоўным" не склаліся.

— На нейкім этапе я зразумеў: адаптавацца да новага кіраўніцтва ў мяне не атрымаецца. Чалавек прыйшоў, на жаль, вырашаць не медыцынскія праблемы. Бо калі ў бальніцы ў аснову ставіцца аказанне медыцынскай дапамогі, усе астатнія службы скачуць вакол гэтага. Але з прыходам новага галоўнага ўрача гэта адышло на другі план. Самымі важнымі сталі бухгалтэрыя, эканоміка.



Уладзімір Мартаў (у цэнтры) з калегамі. Фота з сацсетак

### «Адбыўся збой у сістэме падачы кіслароду — і памерлі пацыенты»

Мінулай восенню БХМД стала галоўнай у Віцебску па прыёме і размеркаванні пацыентаў з каронавіруснай інфекцыяй. Пад ковід разгарнулі тры корпусы: тэрапеўтычны, хірургічны, акушэрскі.

— І нагрузка на кіслародную сістэму стала папросту вар’яцкай, — кажа Уладзімір Мартаў. — Пры гэтым з першай хвалі эпідэміі мы выйшлі са зношаным абсталяваннем. Адбыўся тэхнічны збой: дзесьці на ўзроўні кіслароднай станцыі парушылася падача кіслароду. Высветлілася, што яго паступленне для пацыентаў на ШВЛ у тым аб’ёме, які быў раней, немагчыма.

Мы гублялі кіслародныя кропкі — адну за адной, палаты — адну за адной. Спрабавалі зразумець: чаму там, дзе ў першую хвалю эпідэміі нармальна падаваўся кісларод, ён ужо не падаецца.

Білі трывогу: звярталіся і да свайго кіраўніцтва, і да «кіслародчыкаў» — работнікаў кіслароднай службы. Прыязджалі спецыялісты з Мінска, два разы мянялі сістэму падачы газу. Гэта была цэлая «вайсковая аперацыя»: хворых на ШВЛ пераводзілі на іншыя апараты. Нам было вельмі цяжка. Але гэтыя меры ні да чаго не прывялі.

Праблему спускалі на тармазах, яе нават забаранялася абмяркоўваць.

Катастрофа здарылася 7 і 8 студзеня: у хірургічным корпусе тры разы адключалася падача кіслароду — на 15, 20 і 23 хвіліны. Сталі паміраць людзі. Хтосьці памёр у тыя ж дні, хтосьці — на наступны дзень, хтосьці — праз 3–5 дзён... Гэта вельмі страшна, калі паміраюць пацыенты, якіх ты цягнуў, ратаваў, як мог. Калі твар чалавека чарнее на вачах у медыкаў — а мы нічога, наогул нічога, ні-чо-га не можам зрабіць!

У Мартава ад хвалявання дрыжаць рукі.

*— Колькі было ахвяр?*

— (Доўгая паўза.) Не адзін і не два чалавекі. Прамаўчаць пра гэта надзвычайнае здарэнне я, зразумела, не мог — напісаў міністру аховы здароўя Дзмітрыю Піневічу [копія паведамлення Мартава ёсць у рэдакцыі TUT.BY]. Ён даслаў камісію ў нашу бальніцу. Сістэму падачы кіслароду ніхто не даследаваў, са мной абмяркоўвалі зусім іншыя пытанні. У выніку я ж атрымаў вымову: за тое, што няправільна лячу каранавірусных хворых.

Пасля гэтага галоўны ўрач перастаў са мной размаўляць. Разбірацца ж трэба не са збоямі ў кіслароднай сістэме, а з тым, хто агучыў праблему. І стала зразумела, што мне засталіся лічаныя дні ў якасці загадчыка аддзялення.

Але перабоі з падачай кіслароду перыядычна па-ранейшаму здараюцца. Гэта трэба вырашаць.

### «Гэта не патоп, гэта кандэнсат»

— Нашай бальніцы наогул стала «шанцаваць» на надзвычайныя здарэнні. У сярэдзіне студзеня ў нас адбыўся пажар на дызельнай электрастанцыі. Але ўсё абышлося, ніхто не пацярпеў.

А праз тыдзень здарылася новая аварыя. У аперацыйным блоку хірургічнага корпуса прарвала трубу — і са столі струменямі палілася гарачая вада. Гэта працягвалася 4 гадзіны! Увесь гэты час санітаркі, медсёстры, лекары бегалі з вёдрамі і злівалі гэтую ваду.

**«Я быў сярод людзей, якія байкатавалі выбары. Лічу, што гэта мая вялікая памылка. Пасля 9 жніўня я зразумеў: непазбежна давядзецца заняць грамадзянскую пазіцыю — і не баяцца яе праяўляць»**

А адміністрацыя ўсіх супакойвала: маўляў, нічога страшнага не адбываецца, гэта не гарачая вада, гэта кандэнсат. Чатыры гадзіны — і нарэшце прыйшоў сантэхнік, перакрыў ваду. Са столі ў месцы «патопу» адваліўся кавалак гіпсакардону.

Наша бальніца тады працавала як ковідны шпіталь, і аперацыі ў хірургічным корпусе не рабілі. Але літаральна ў пяці метрах ад «патопу» ў палаце ляжалі цяжкія хворыя з каронавірусам.

*— Ці была праверка пасля гэтага інцыдэнту?*

— Так (смяецца). Адміністрацыя дазнавалася, хто здымаў і потым «зліў» у інтэрнэт відэа. Хто здраднік, хто не даў замесці праблему пад дыванок? А «патоп» здымалі многія супрацоўнікі — і кожны па сваёй лініі пасылаў свайму начальніку, каб тэрмінова выклікалі аварыйку.

І нават на наступную раніцу, калі відэа трапіла на сайты, у паблік, адміністрацыя запэўнівала: гэта не патоп, гэта кандэнсат. Я думаю, гэта лозунг усёй сістэмы: «Гэта не патоп, гэта кандэнсат». Яго можна напісаць вялікімі літарамі і павесіць на чырвоным банеры.

### «Быў пэўным абярэгам для персаналу»

*— Як навіну пра ваша звальненне ўспрыняў калектыў?*

— Людзі шакаваныя, засмучаныя. Пакуль я быў загадчыкам, з’яўляўся пэўным абярэгам для персаналу, які не баяўся праяўляць грамадзянскую пазіцыю. Што цяпер з імі будзе далей — невядома. А нам і так вельмі не хапае людзей, каб забяспечыць нагрузку, якую ўскладаюць на бальніцу.

*— А самі вы як перажываеце гэтую сітуацыю?*

— Адчуванні складаныя. Пра непадаўжэнне кантракту папярэджваюць за месяц. І гэты месяц мне трэба хадзіць на працу, складаць графікі, думаць, як мы будзем працаваць далей. Але паколькі ў мяне няма перспектывы ў гэтай бальніцы, незразумела, што я наогул там цяпер раблю.

*— Як вы ацэньваеце пяць гадоў свайго кіраўніцтва аддзяленнем?*

— За пяць гадоў я зрабіў тое, што хацеў. І лічу, што зрабіў шмат. Час, напэўна, пераключаць хуткасць і прызначаць новага загадчыка. Але хуткасць можна пераключыць наперад, а можна — назад. Як гэта будзе без мяне — не ведаю.

Я шмат гадоў працаваў пад кіраўніцтвам бацькі — прафесара хірургіі, кіраўніка клінікі — і браў з яго прыклад. Ён навучыў, як праводзіць абходы, на што звяртаць увагу. Акрамя вузкапрофільных тэмаў ёсць яшчэ агульнамедыцынская культура, і яна вельмі важная. І, як мне здаецца, яна ў маім аддзяленні даволі высокая. У прыватнасці, гэта эмпатыя да пацыентаў, зносіны з іх сваякамі, асабліва са сваякамі памерлых. Усё гэта — велізарны пласт працы.

У нашым аддзяленні — сапраўдная каманда. Усе прыходзяць адзін адному на дапамогу, няма ніякіх груповак, інтрыгі на мінімуме. На працы не абмяркоўваюць агароды, рамонт машыны, а толькі прафесійныя пытанні.

І я старанна, усімі сіламі, заўсёды стараўся пазбегнуць сітуацый, калі людзі маглі б сутыкнуцца ілбамі. Да нас працягваюць паступаць у тым ліку і супрацоўнікі МУС. Некаторыя — у цяжкім стане. І мы іх выцягваем, ратуем гэтак жа, як усіх іншых людзей. Не ведаем і не хочам ведаць іх паслужны спіс: збівалі яны людзей на вуліцах ці не. Дарэчы, пасля выбараў міліцыянты хвалілі сваю прафесію, даведацца пра яе мы маглі, напрыклад, пасля званка іх начальніка, які пытаў пра здароўе падначаленага.

*— Што будзеце рабіць з 3 красавіка?*

— Проста адпачываць. Сядзець на лецішчы і глядзець на агонь у печы. Апошнія паўгода былі цяжкімі не толькі з-за другой хвалі каронавіруса, але і з-за няпростых стасункаў з новым кіраўніцтвам. На працу хадзіць не хацелася: я стаў займацца там не хворымі, не лячэннем, не абмеркаваннем складаных выпадкаў, а непатрэбным глупствам, пра што нават сорамна распавядаць.

Для аднаўлення я сабе вызначыў два месяцы. Калі мозг адпачнуў — у мяне з’яўляецца шмат ідэй. Тады і вырашу, што я хачу рабіць, а што — дакладна не хачу.

Вавёрку ў коле трэба перыядычна выгульваць. Раней у мяне было шмат хобі. Я чытаў, кулінарыў, збіраў манеты, цікавіўся гісторыяй, пісаў артыкулы для «Вікіпедыі» і г.д., а цяпер заўважыў, што за год каронавіруса асеў. Трэба вяртацца да сваіх захапленняў.

*— Вас змяніў апошні год, калі да каранавіруса дадаліся яшчэ і пратэсты пасля выбараў?*

— Так. У маладосці я быў сябрам АГП, хадзіў на партсходы. Потым я цалкам прысвяціў сябе прафесіі, перастаў цікавіцца палітыкай. І да 2020 годзе аказаўся зусім не гатовы. Я быў сярод людзей, якія байкатавалі выбары. Лічу, што гэта мая вялікая памылка. Пасля 9 жніўня я зразумеў: непазбежна давядзецца заняць грамадзянскую пазіцыю — і не баяцца яе праяўляць.

На жаль, у гэтым палітычным сезоне медыкі, якія выказвалі сваё меркаванне, сталі мішэнямі. Гэта, вядома, дзікунства.

*— На вашым месцы многія б цяпер з’ехалі.*

— Я дакладна не збіраюся з’язджаць. Хоць ёсць вельмі добрыя прапановы ад калег за мяжой. Яны гатовыя дапамагчы мне ўладкавацца, бо каронавірус яшчэ пануе ў свеце — і спецыялісты запатрабаваныя. Прапановы пачалі паступаць яшчэ да таго, як стала вядома, што мяне звальняюць. Сябры пытаюцца: «Навошта табе гэта трэба? Едзь!»

Для свайго начальства я — чужы. Калі ўдарыць па каменю, у якім ёсць чужародны элемент, ён разваліцца. А гэтага элемента няма — камень вытрымае ўдар. Па аналогіі атрымліваецца, што ад’езд з краіны кожнага нязгоднага ўзмацняе маналітнасць сістэмы. Таму я прынцыпова не хачу з’язджаць.

**Друкуецца ў скароце.**

# Маці Ігара Салаўя верыць у перамогу

Вольга БЫКОЎСКАЯ

**Ігар Салавей, палітзняволены, актывіст Руху «За Свабоду» з Пінска — хіба адзіны з прадстаўнікоў «традыцыйнай апазіцыі», затрыманы па справе пра «масавыя беспарадкі» 9 жніўня. За кратамі — з верасня 2020 года. Яго затрымалі 3 верасня ў сваёй кватэры. З Марыяй Салавей мы паразмаўлялі пра тое, што яна думае, чаго чакае ад суда і як падтрымлівае сына.**

### «Настрой у Ігара — баявы»

Каля дзвярэй кватэры ў Пінску нас сустракае маці Ігара Марыя Салавей. Жанчына з гонарам паказвае кветкі, іх ёй перадалі да 8 сакавіка віцебскія валанцёры. «Вясна прыйшла! Хутка ўсё будзе добра! З любоўю з Віцебска», — сказана на паштоўцы да букета.

«Пасля таго, як Ігар трапіў у турму… Як маё жыццё змянілася? Я стала больш часу выдаткоўваць на перапіску, пішу яму лісты, пасля працы еду адпраўляць іх на цэнтральную пошту, каб ён на наступны дзень ужо мог іх атрымаць. У паштовую скрыню баюся кідаць, мо, не дастануць і не адправяць. Раз у два-тры тыдні езджу ў Баранавічы, перадачы яму адвозім. Пераводы перасылаю», — распавядае яна.

У нейкі момант яна замаўкае і моцна заплюшчвае вочы, відавочна, спрабуе стрымаць слёзы. «Настрой у мяне кепскі», — кажа, але тут жа стрымліваецца і прыгадвае добрае: сустрэчу з сынам.

«У лютым мела спатканне з Ігарам. Абодва засталіся задаволеныя, сын выглядае добра, дзякуй Богу. Не схуднеў, настрой добры. Я прасіла перад гэтым пра спатканні ў следчага, але мне адмаўлялі, а цяпер, перад адпраўкай у Баранавічы, дазволілі. Іх у пятніцу павезлі, а мы паехалі за імі. І так атрымалася, што мы прыехалі ў Баранавічы, а нашы дзеці былі яшчэ ў дарозе. Здзівіліся ў турме, як так: бацькі прыехалі, а дзяцей не прывезлі», — кажа Марыя.

Жанчына кажа: часцей бы такія спатканні, бо шмат у каго са сваякоў палітвязняў іх увогуле не было. «Шчыра паразмаўлялі з сынам, паўтары гадзіны было мала, не наразмаўляліся. Ехалі мы назад адтуль акрыленыя», — распавядае яна.

У Ігара баявы настрой, дадала Марыя, «але колькі можна, пайшоў сёмы месяц — і чалавеку проста хочацца дадому».

### «Змагар за справядлівасць»

«У Ігара вельмі справядлівы характар. Змагар за справядлівасць. Ён паўсюдна пойдзе і паедзе, у 2006 годзе вось паехаў на Плошчу», — прыгадвае Марыя.

Ігар Салавей тады жыў у намётавым мястэчку на Кастрычніцкай плошчы, быў затрыманы пры яго ным разгоне і адсядзеў 10 сутак.

«Настройвае тых хлапцоў, якім па 18–19 гадоў, што хутка ўсё скончыцца, выпусцяць іх на волю ўсіх — і ўсё будзе добра. Вядзе прафілактычныя размовы з імі… Цяпер ужо ў хлапцоў баявы дух. Як сядзелі ў пачатку, недзе верасень-кастрычнік, былі моцна дзеці маркотныя, то цяпер яны ўздужалі духам і спадзяюцца на лепшае», — кажа маці пра сённяшнія падзеі.

### «Лісты пачалі прыходзіць з закрэсленымі радкамі»

Асноўная сувязь з сынам больш за паўгода — лісты. Ад Ігара маці атрымала 43 лісты, захоўвае іх у акуратным стосіку ў сумцы, носіць чытаць і ягонаму бацьку. Прыкладна столькі ж адправіла і сама.

«Я ў асноўным адказваю на яго пытанні. Ён піша шмат пытанняў: што там дзе пішуць, што ты даведалася. Я яму пішу. Ён апошні раз даслаў: “Нешта твае лісты сталі прыходзіць з закрэсленымі радкамі”. Раней такога не было. Ён часам ведае болей, чым я тут. Нешта чытае ў газетах, з волі людзі паступаюць», — адзначыла Марыя Салавей.

Кажа, што лістоў Ігару пішуць шмат. «Адзін ліст даслалі з аграгарадка з-пад Мінска, скардзіліся на свае беды. “Быццам бы я нейкі дэпутат, — кажа, — пішуць, няма садка, яшчэ нешта трэба, і запрашалі, як вызвалюся, каб я прыехаў да іх”. Пішуць і з іншых гарадоў, усім дае адказ», — распавяла жанчына.

### Цытаты з лістоў Ігара Салаўя

«Адно добра, што я больш не траплю ў “Пінскі клапоўнік” да пацярпелых “у падзямеллі”. Хоць там і зрабілі рамонт, але

# «На Акрэсціна думала, што з’еду з Беларусі,

Дзіяна СЕРАДЗЮК



**Праваабаронца Анісія Казлюк ужо не першы год дапамагае беларусам адстойваць іх правы, але нядаўна ўпершыню сама трапіла за краты. У гутарцы з «Новым Часам» яна распавяла аб праблемах са здароўем, якія займела ў зняволенні, як пражыла 17 сутак без перадач і аб тым, як спецслужбы прымушаюць нас думаць, што «пратэст садзьмуўся».**

— Я адчуваю сябе добра, таму што выйшла і атрымала вялікую колькасць падтрымкі ад знаёмых і незнаёмых людзей, а яшчэ ў нас была цудоўная кампанія ў камеры, — гаворыць праваабаронца Анісія Казлюк праз пяць дзён пасля адбывання 20-суткавага арышту.

Нягледзячы на тое, што Анісія не першы год займаецца правамі чалавека ў Беларусі, для яе гэта было першае наўпростае сутыкненне з сістэмай, якую раней называлі праваахоўнай, а цяпер больш пасуе азначэнне «карнай».

У ізалятары давялося ўдзевяцёх сядзець у трохмеснай камеры, спаць на падлозе і па два чалавекі на ложку.

### «Беларускі інстынкт»

Анісію Казлюк, яе мужа Юлія Ільюшчанку, а таксама іх сяброўку швейцарскую журналістку Люцыю Чыркі затрымалі 31 студзеня ў цэнтры Мінска. Яны сустрэліся, каб выпіць кавы. Пасля таго, як некалькі бараў, куды яны хацелі зайсці, аказаліся закрытымі, кампанія вырашыла пайсці ў «Цэнтральны».

— На святлафоры мы пабачылі бусік. Я кажу: «Люцыя, глядзі: беларускі інстынкт — гэта калі ты бачыш бусік, і ў цябе ўсё сціскаецца». І ў гэты момант з бусіка выходзяць і затрымліваюць нас.

Анісія гаворыць, што не ведала, што ў той дзень у горадзе адбываліся нейкія акцыі, пра гэта ёй распавялі праз некалькі дзён сукамерніцы на Акрэсціна. Адной з прыкмет удзельнікаў маршу 31 студзеня былі ахоўныя медыцынскія маскі, і ў кампаніі Анісіі яны былі.

Спачатку кампанію пакаталі па горадзе, потым адвезлі ў Кастрычніцкі РУУС. Швейцарскую журналістку неўзабаве вызвалілі, і яна распавяла пра сваё затрыманне. Яе сябрам так не пашанцавала.

— Людзей у РУУС прымусова дактыласкапіравалі, фатаграфавалі і здымалі на відэа. Я адмовілася праходзіць гэта. Усім, хто адмаўляўся, пагражалі другім пратаколам, таму многія пагаджаліся.

Па словах Анісіі, у РУУС да затрыманых ставіліся без агрэсіі, але і без сімпатыі — абыякава, «проста як да рэчаў, якія трэба апісаць». На просьбы патэлефанаваць родным адказвалі, што «гэта не ў іх кампетэнцыі».

### Акрэсціна: сцяг на падлозе і мужчыны ў касцюмах

Анісію затрымалі ў 14.15, і толькі а першай гадзіне ночы вывезлі з РУУС на Акрэсціна, дзе яшчэ 30 ці 40 хвілін давялося стаяць на вуліцы пад снегам.

— На Акрэсціна на ўваходзе замест дыванкоў ляжаць тры вялікія бел-чырвона-белыя сцягі, і калі ты спрабаваў іх пераскочыць ці неяк абысці, да цябе адразу пачыналася агрэсія,

**У сучаснай Беларусі да арышту трэба быць гатовым і не баяцца. Яна раіць тым, хто трапіў за краты, максімальна падтрымліваць адзін аднаго. І не зацыклівацца на падліку дзён зняволення — каб яны не падаваліся бясконцымія**

мат, замахванні і г.д. У нас сцяг пераскочылі ўсе, і таму афармлялі даволі непрыемна.

Вязняў распіхалі па «стаканах» і потым доўга вырашалі, куды падзесць затрыманых дзяўчат. У той час была вольная пяцімесная камера і трохмесная. Як ужо згадвалася вышэй, дзевяць затрыманых увапхнулі ў трохмесную камеру: сказалі, што большая — не для іх.

— На наступную раніцу нас не пакармілі сняданкам, не выдалі матрацы. Я ўвесь час пыталася, а ці выдадуць нам іх, ці выключаць святло. Першы час у нас не было нават туалетнай паперы — нам яе адмотвалі і выдавалі па кавалачку. Толькі на другі ці трэці дзень нам выдалі рулон. Не аддавалі зубныя шчоткі, не дазвалялі браць майткі, калі ў кагосьці былі ў торбачках.

Амаль ва ўсіх час суда стараліся зацягнуць да максімальна магчымага тэрміну затрымання — 72 гадзін. Анісію асудзілі на 74-ай з паловай гадзіне, нягледзячы на тое, што гэта парушэнне.

— Суддзя сваімі пытаннямі сама разбурыла сведчанні хлопца ў балаклаве, які нібыта мяне затрымліваў. Я была ўпэўнена, што ў мяне будзе альбо штраф, альбо папярэджанне, хаця не спадзявалася, што суддзя скажа, што затрыманне было незаконным.

Першы раз справу Анісіі адправілі на дапрацоўку. Пасля гэтага яе маглі адпусціць да новага суда, але супрацоўнікі РУУС сказалі, што яна не выйдзе. На наступны дзень ёй далі 20 сутак. Арышт з усёй камеры прысудзілі толькі Анісіі і яшчэ адной жанчыне.

— Свае суткі я звязваю са сваёй дзейнасцю. Я думаю, што гэта не сышло ад іх увагі, — гаворыць Анісія.

Яна ўзгадвае, што на Акрэсціна прыходзілі «мужчыны ў касцюмах», якія па адной выклікалі дзяўчат «на размову».

— У суседняй камеры дзвюх дзяўчат выклікалі, і яны вярнуліся ў слязах. Потым іх проста адпусцілі.

Мужчыны не прадстаўляліся і пасведчанняў не паказвалі, таму Анісія не ведае, хто гэта быў, але мяркуе, што прадстаўнікі ГУБАЗіК ці КДБ. Яны прапаноўвалі зняволеным супрацоўніцтва.

— Хтосьці казаў, што іх прасілі распавядаць пра тое, што адбываецца ў закрытых чатах, кагосьці прасілі пісаць у іх паведамленні кшталту: «Навошта вы ходзіце, пратэст садзьмуўся» і г.д. Улічваючы, што праз іх праходзіць вялікая колькасць людзей, якім пагражаюць пастаяннымі суткамі і асаблівай увагай, я падазраю, што многія згаджаюцца. І ўсё ныццё ў фэйсбуку адносна таго, што «пратэст садзьмуўся», я пакуль звязваю толькі з такой працай.

Але ні саму Анісію, ні яе мужа чамусьці на такія размовы не выклікалі.

### «Не знайшлі нармальных мужыкоў»

Праз пяць дзён на Акрэсціна дзяўчыну павезлі на Жодзіна. Там сітуацыя была крыху лепшая: былі матрацы, нармальная ежа і 10 чалавек у камеры на 10 месцаў. Хоць там не зачынялася вакно, і праз скразнякі Анісія атрымала кашаль. Таксама ў Жодзіна да дзяўчат у камеру перавялі хворую суседку, у якой некалькі дзён таму пацвердзіўся кавід.

Анісія па выхадзе таксама здала тэст на каронавірус, ён аказаўся адмоўны. Але ў Жодзіна яна хварэла, у яе была тэмпература, таму цяпер яна плануе здаць тэст на антыцелы. Да таго ж муж Анісіі, якога затрымалі разам з ёй, выйшаў пасля 16 сутак з двухбаковай пнеўманіяй. Суразмоўца гаворыць, што іх там трымалі ў «кавіднай» камеры.

— Яму не перадавалі лекі, хаця родныя іх аддалі — і іх прынялі, проста да яго яны не дайшлі. Бацька з братам су-

# і не верыць у беларускі суд




ўсё роўна вёдры засталіся. Калі быў там апошні раз, спытаў: “Што ў вас тут за рамонт?” А ён адказаў: “Рамонт, але гэта не для вас”. Правільна, хутка туды сядуць іншыя».

«Бачыла б ты хлапцоў, у першыя месяцы гэтыя дзеці былі як зашуганыя кацяняты, а як пасмялелі, болей аптымізму праяўляюць, атаварваюцца смачным. Я ім адразу казаў: усё будзе, нас не кінуць, у газетах напішуць. “Можа, вы яшчэ не разумееце, але вы ўжо героі, — казаў ім. — Яны паверылі мне. Дзякуй усім за падтрымку, перадаю прывітанне ўсім. Трымайцеся, нічога не бойцеся».

### Просіць прывозіць сала і ірыскі

За кратамі Ігар займаецца самаадукацыяй, таму просіць мастацкай літаратуры яму не дасылаць. «Замовіў кнігу “Сацыялогія”. Я абышла кніжныя крамы горада, “Сацыялогіі” нідзе не знайшла. Зайшла ў адзін кніжны, кажуць, калі хочаце мы атрымаем яе пад замову. Я згадзілася, кніга прыйшла», — распавядае яго маці.

Кнігу яна адпраўляла па пошце: 3-га сакавіка выслала, 4-га яе даставілі ў Баранавічы, але перадалі палітвязню толькі 10 сакавіка. За гэты час жанчына ўжо згубіла надзею: хутчэй за ўсё, нейкі цэнзар прымаў рашэнне, ці можна аддаваць выданне.

«Просіць сала, бо доўга ляжыць, лядоўні ж няма. Прасіў вельмі раней цукеркі — ірыскі круглыя, але трэба ж фанцікі здымаць... Апошні раз я зноў завезла, дык піша: “Больш не вязі, у мяне іх цэлы мех на восем гадоў турмы”», — дадала Марыя Салавей.

### «Нават калі нешта і прысудзяць, мне падаецца, гэта не надоўга»

Як распавёў Ігар у лістах да маці, яго дакументы ўжо адправілі на Брэст, чакае этапу. Утрыманне пад вартай працягнулі да 22 сакавіка, займацца справай будзе Маскоўскі суд. «Ужо чалавек дзесяць хлапцоў туды адвезлі. Наш суд будзе асобна», — кажа Марыя.

Да гэтага часу аддалі не ўсе рэчы сына: карткі і грошы аддалі, у міліцыі застаўся тэлефон, заплечнік і швэдар.

«Мне гэты суд не вельмі цікавы, мне цікава змена ўлады, каб людзі адчулі перамогу, свабоду і жылі ў нармальнай вольнай дзяржаве. Нават калі там нешта і прысудзяць, то мне падаецца, гэта не надоўга», — спадзяецца Марыя Салавей.

### Алесь Рамановіч, гарадскі каардынатар Руху «За Свабоду» пра Ігара Салаўя

«Ігар з самых маладых гадоў у шэрагах апазіцыі. Узначальваў пінскі “Малады фронт” у свой час. Я з ім пазнаёміўся ў 2006 годзе, ён удзельнічаў, дапамагаў у кампаніі Аляксандра Мілінкевіча, а пазней — у “Маршах недармаедаў”, дый фактычна ва ўсіх акцыях.

Сярод тых, каго затрымалі па “пінскай справе”, ён адзіны з “традыцыйнай апазіцыі”, астатнія — новыя людзі, якія ў тым годзе выйшлі.

Ігар — мэтанакіраваны, смелы, сапраўдны баец, не ў тым сэнсе, што гатовы біцца ці граміць, а ў сэнсе характару: будзе адстойваць сваё і бараніць».

# але цяпер разумею, што не хачу»

стракалі яго, і цяпер у бацькі тэмпература.

Па словах дзяўчыны, персанал у жодзінскай турме адрозніваецца тым, што звыклы ахоўваць злачынцаў, таму распарадак быў больш жорсткі: калі нехта заходзіў у камеру, трэба было ўстаць, пакласці рукі за галаву, развярнуцца тварам у сцяну. Удзень не дазвалялі нічога пасцілаць на жалезную лаву і ложак. На ложку ў прынцыпе нельга было сядзець, але з улікам таго, што ў камеры было 10 чалавек, а лавы змяшчаюць 6, часам дазвалялі.

Сярод усіх супрацоўнікаў асабліва вылучаўся адзін маёр, які прыходзіў і распавядаў, што ён 25 гадоў у шлюбе, а дзяўчаты проста «не знайшлі сабе нармальных мужыкоў», таму ходзяць на мітынгі. Калі ў зняволеных была патрэба ў меддапамозе, доктара ім не выклікалі, але перадавалі па іх просьбах іх таблеткі, якія віселі на ручцы дзвярэй з адваротнага боку.

З плюсаў у Жодзіна была нармальная пітная вада, праз дзень-два вадзілі на шпацыр і ў душ. Суразмоўца гаворыць, што такое стаўленне было толькі да жанчын, і тое не з усіх камер. Яе муж, напрыклад, за ўвесь свой тэрмін толькі два разы трапіў у душ. Суд пакараў яго 25 суткамі, хаця ў яго гэта таксама было першае затрыманне. Але прысуд удалося абскардзіць у Мінгарсудзе: пастанову адмянілі, і праз 16 сутак яго адпусцілі. Праўда, наперадзе яшчэ перагляд справы.

Юлій Ільюшанка не быў адзіным, каму скасавалі прысуд.

— У нас у суседняй камеры аднойчы адчыніліся дзверы, і канвойны паклікаў адну дзяўчыну «на выхад». Яна запытвае: «Навошта?». Той кажа, што суд адмяніў пастанову, яна невінаватая. А дзяўчына кажа: «Я нікуды не пайду». У выніку яе вывелі. Яшчэ на Акрэсціна са мной стаялі чатыры хлопцы, чакалі суда, але праз 72 гадзіны іх адпусцілі.

### У турме вельмі лёгка маніпуляваць

Самым цяжкім маральным выпрабаваннем для Анісіі стала Акрэсціна.

— Тое, як да цябе звяртаюцца, што ты адчуваеш сябе рэччу ў чужых руках, нішчыць тваю чалавечую годнасць. На трэція суткі я засумнявалася ў тым, што ўсё гэта вытрымаю. Таму, калі нас перавезлі ў Жодзіна, я выдыхнула.

У першы ж вечар у Жодзіна зняволеных пакармілі нармальнай ежай, яны маглі спаць у ложках з матрацамі і бялізнай і адчуваць сябе людзьмі. А 17 лютага на Жодзіна дазволілі перадачкі: у камеру прынеслі духмянае мыла, перадалі ежу.

— Я аналізавала свой стан і стан сваіх сукамерніц, і мяне моцна ўразіла, як лёгка можна маніпуляваць чалавечай годнасцю і прымусіць цябе адчуць сябе нейкім не такім, падпарадкаваным, абавязаным ім чымсьці, — заўважае суразмоўца. — Сняданак быў а 5.30 — 6 ранку, а абед толькі а 14-ай гадзіне, і потым вячэра а 18-ай. На сняданак — толькі каша і гарбата. Я да 17 числа жыла без перадачак і пастаянна знаходзілася ў стане голаду. Я не высыпалася, бо хацела есці.

Каб захаваць актыўнасць, дзяўчаты ў камеры штодня стараліся хадзіць па 10 000 крокаў — пры тым, што ўся камера была ахопам у 23 крокі Анісіі. Калі выводзілі на прагулкі, 10 чалавек у камеры памерам 2х4 метра гулялі ў даганялкі і снежкі.

За ўвесь час Анісіі перадалі толькі адзін ліст, хаця яе сукамерніцам перадавалі. Яе прымушалі адчуваць сябе пакінутай, але яна працягвала верыць у тое, што пра яе не забыліся — і гэта дапамагала трымацца. Таксама вельмі важнай была падтрымка сукамерніц.

### «Цяпер ведаю, што гэта не страшна»

Суразмоўца прызнаецца, хоць і займалася правамі чалавека, і збірала гісторыі тых, хто пабываў у зняволенні ў жніўні, ніколі не думала, што сама калісьці трапіць за краты. Таму аказацца на месцы тых, чые сведчанні запісвала, для яе было нечакана.

— Для мяне гэта было крыху як гульня: а як будзе, калі я зраблю гэта ці гэта? І, напэўна, таму, што я не ўспрымала гэта ўсё канчаткова ўсур’ёз, дапамагло мне ўсё вытрымаць з найменшымі ахвярамі. Плюс я тэставала ўсе тыя рэчы, па якіх раней кансультавала людзей: што трэба выклікаць доктара, прасіць асадку і паперу. Таму для мяне гэта быў такі квэст. Канешне, я не хачу туды яшчэ раз трапляць, але не магу сказаць, што гэта немагчыма вытрымаць. Я вельмі баялася, што гэта можа са мной здарыцца, але цяпер я ведаю, што гэта не страшна.

Анісія падкрэслівае, што ў сучаснай Беларусі да арышту трэба быць гатовым кожнаму і не баяцца — бо гэта несмяротна. Яна раіць тым, хто трапіў за краты, максімальна падтрымліваць тых, хто побач. Таксама важна не зацыклівацца на падліку дзён зняволення — іначай яны будуць здавацца бясконцымі.

Досвед зняволення змяніў стаўленне Анісіі да таго, што яна мае ў жыцці.

— У камеры не было нічога, што б смачна пахла. Таму, калі прыходзіў ліст, папырсканы парфумай, яго ўвесь вечар усе нюхалі.

Таксама арышт дапамог ёй змясціць фокус увагі ў прафесійнай дзейнасці: на што трэба звяртаць увагу пры абскарджваннях тых ці іншых дзеянняў.

— Я буду прасоўваць ідэю аб тым, што трэба адмаўляцца ад дактыласкапіі, бо гэта мусіць быць абсалютна ваша добраахвотнае рашэнне. Я рабіла сабе пазнакі наконт умоваў утрымання і цяпер буду пісаць скаргі.

Анісія мяркуе, што пісаць скаргі на судовыя пастановы і парушэнні вельмі важна нават ва ўмовах, калі закон не працуе.

— Гэта, як мінімум, дае ім лішнюю працу, і ў наступны раз яны задумаюцца — затрымаць 25 чалавек ці 10, каб паспець усіх афарміць. Плюс мы фіксуем праблемы і прозвішчы людзей для наступных працэсаў — люстрацыі і рэформаў, — мяркуе Анісія Казлюк. — Таксама, мне здаецца, гэта мае і пэўныя вынікі. Першыя сем сутак у Жодзіна нас кармілі ежай выключна з кіслай капусты. Людзям, у якіх праблемы са страўнікам, было вельмі цяжка, яны не маглі есці нічога, апроч кашы, хлеба, кісялю і гарбаты. Потым у адзін выдатны дзень, пэўна, чакалі нейкую праверку — выдраілі ўвесь калідор і нам далі «макарону па-флоцку» — макароннае месіва з тушанінай і морквай. І з таго дня нас пачалі карміць больш-менш нармальна. Я лічу, што гэта быў вынік таго, што людзі, выходзячы, пісалі скаргі.

Аднак затрыманне і арышт не толькі ўзбагацілі праваабаронцу новым досведам, але і пакінулі непрыемныя сляды. Апроч згаданых у пачатку артыкула праблем са здароўем, Анісія пасля арышту не можа заснуць без святла, паколькі ў камеры яго не выключалі ніколі. Яна распавядае, што ў турме ад пастаяннага святла некаторых пачалі мучыць кашмары. «Гэта наўпроставыя катаванні», — гаворыць дзяўчына. Катаваннямі яна называе і тое, што ўпершыню трапіць у душ змагла толькі праз тыдзень пасля затрымання. І калі ва ўмовах Акрэсціна ў камеры была гарачая вада, то ў Жодзіна — толькі халодная, і «памыцца» можна было, толькі нагрэўшы на батарэі ваду ў бутэльцы.

Пасля зняволення ў Анісіі пачало балець сэрца. Таксама яна цяпер не адчувае сябе ў бяспецы, баіцца выязджаць у горад, у яе з’явіўся страх бусаў і маршрутак.

— Калі сядзела на Акрэсціна, я думала, што з’еду з Беларусі, — шчыра кажа Анісія. — Але цяпер я разумею, што не хачу з’язджаць. Я буду працягваць сваю дзейнасць. Я перажыла гэты досвед, ён быў цярпімы, але гэта не нагода для таго, каб перастаць займацца правамі чалавека.

Дзяўчына прызнаецца, што не чакала такой дэвальвацыі права ў Беларусі, бо да выбараў дзяржава хаця б імкнулася рабіць выгляд, што права існуе.

— Мяне хвалюе, што цяпер беларусы стануць самай траўмаванай псіхічна нацыяй. У мяне няма адказу, што з гэтым рабіць, але я ведаю, што нам яшчэ прыйдзецца нейкі час жыць пад гэтай акупацыяй. Але нашая задача — выйсці з гэтага з мінімальнымі стратамі. Прапаноўваюць супрацу — пагаджаешся, потым выходзіш, распавядаеш пра гэта, выдаляешся з чатаў, магчыма, з’язджаеш з краіны. Класці сябе на алтар рэвалюцыі — бессэнсоўна, не трэба выгараць, — перакананая Анісія.

Яна заклікае працягваць мірны пратэст, бо гэта адзінае, што мы можам рабіць. Але яна верыць, што змены ў Беларусі наступяць цягам гэтага года.

— Па тых умовах, у якіх я знаходзілася, я бачу, што ў іх — жудасная неўкамплектаванасць кадраў, яны нават канвойных камандзіруюць з іншых гарадоў. Нас ахоўваў хлопец з Нясвіжа. Ім недаплачваюць, бо дзяўчаты распавядалі, што яны абмяркоўвалі свае разліковыя і абураліся. Яны таксама вельмі незадаволеныя сваёй працай, і калі мы там, на нас ускладзена вялікая місія па іх ачалавечванні праз размовы, — гаворыць Анісія. — Я недзе прачытала, што гэта — як трэці трыместр цяжарнасці. І нам абавязкова трэба нарадзіць.

**Фота Яны Трусіла**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Навіны блакітнага экрана

Сакавік аказаўся шчодрым на анонсы серыялаў, сюжэты якіх грунтуюцца на апошніх падзеях у постсавецкім рэгіёне. Спачатку Мінкульт Азербайджана заявіў, што Баку можа скарыстацца вопытам Турцыі ў кінематографе і зняць фільм пра перамогу ў карабахскай вайне. «Мы вызвалілі тэрыторыі Азербайджана. Неабходна захаваць у кіно мужнасць нашых салдат, якія выявілі. Для гэтага мы будзем супрацоўнічаць з турэцкімі кампаніямі-вытворцамі», — сказаў чыноўнік з мінкульту.

Але значна цікавейшы для нас праект, мяркуючы па ўсім, рыхтуе Netflix. Калі верыць кіеўскім палітолагам, кампанія запускае ў вытворчасць міні-серыял пра прыгоды ў Беларусі «групы вагнераўцаў». Гаворка пра групу наймітаў, якія засвяціліся на Данбасе і былі затрыманыя нашымі спецслужбамі ўлетку мінулага года, а затым перададзеныя ў Расію.

Напярэдадні дэпартацыі стала вядома, што іх, нібыта, завабілі ў Беларусь выведцэнтры ЗША і Украіны. З сінявокай самалёт з «вагнераўцамі» павінен быў трапіць ва Украіну, дзе іх чакала засада. План праваліўся, згодна з асноўнай версіяй, з-за ўцечкі інфармацыі — нібыта, у асяроддзі Зяленскага быў агент ФСБ. Хто ён? Даведаемся напрыканцы лета, калі серыял, як плануецца, выйдзе на экраны.

**Паводле замежнай прэсы**

### РАСІЯ. Галасуй на ровары!

Расійскія лібералы вельмі занепакоеныя дзіўнай цікавасцю мясцовага ЦВК да першых шматдзённых выбараў у Нідэрландах, якія прайшлі ў краіне з 15 па 17 сакавіка. Не выключаюць, што цікавасць выклікана жаданнем імпартаваць у Расію некаторыя элементы выбараў — а яны былі сапраўды дастаткова інавацыйныя.

Прагаласаваць нідэрландцам можна было асабіста на ўчастку, па пошце, па даверанасці, і нават на ровары (на вуліцах Амстэрдама арганізавалі мабільныя выбарчыя ўчасткі для аўтамабілістаў, ровараў і пешаходаў). Выбаршчыкі таксама маглі апусціць запоўненыя бюлетэні ў скрыні для галасавання, устаноўленыя на выдзеленых лініях дарогі. Акрамя таго, інстытуту грамадскага назірання як такога на парламенцкіх выбарах у Нідэрландах заканадаўча не прадугледжана.

Няма сумневаў, што імпарт галандскіх «ноу-хау» (напрыклад, галасаванне на мабільных участках) у Расію адкрывае вялізныя магчымасці для фальсіфікацый. Ліберальныя каментатары баяцца, што адпаведныя папраўкі могуць з'явіцца ў выбарчым кодэксе Расіі напярэдадні важных для краіны восеньскіх думскіх выбараў.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАНАДА. Музей віруса

Хаця да перамогі над вірусам яшчэ далёка, некаторыя музеі ўжо рыхтуюць экспазіцыі, прысвечаныя гэтай фазе гісторыі чалавецтва. У авангардзе ідзе Каралеўскі музей Антарыё з Таронта, які збірае маскі для восеньскай выставы. На сёння ў экспазіцыі прадстаўлена больш за 200 гігіенічных масак з 20 краін. У тым ліку вельмі незвычайныя: напрыклад, дэкаратыўныя маскі, што носяць танцоры Чхаў з усходняй Індыі, якія выконваюць старажытны індуісцкі эпас. Шмат масак тэматычна звязаныя з палітычнымі падзеямі за апошні год.

Куратары калекцыі не лічаць, што ўвосень музей будзе адбівацца ад наведвальнікаў, але яны ўпэўненыя, што гадоў праз 50 шмат хто будзе цікавіцца тым, як людзі жылі ва ўмовах эпідэміі.

Музейных работнікаў таксама матывуе правал іх калегаў у мінулым. Чамусьці сто гадоў таму ў разгар эпідэміі грыпу «іспанкі», якая забрала прыкладна 19 мільёнаў жыццяў, ні адзін музей у свеце не займаўся зборам артэфактаў. Магчыма, экспазіцыя пра жахі «іспанкі» прымусіла б палітыкаў больш адказна ставіцца да тэмы эпідэміялагічнай пагрозы.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ІРЛАНДЫЯ. Забараніць мову, каб яе выратаваць

Ірландская газета Irish Examiner апублікавала правакацыйны тэкст, прысвечаны лёсу ірландскай мовы. На думку аўтара публікацыі, ірландская мова памірае на вачах. Не дапамагае ні абавязковае вывучэнне мовы ў школах, ні дзяржаўныя субсідыі на падтрымку ірландскай літаратуры і СМІ. Нават у элітных філалагічных навучальных установах, дзе вывучаюць ірландскую, вучні за парогамі ўстаноў адразу пераходзяць на англійскую мову.

Як вярнуць ірландцам цікавасць да роднай мовы? На думку Irish Examiner, для гэтага трэба ўспомніць асаблівасці нацыянальнай свядомасці. Як паказвае гісторыя, ірландцы традыцыйна супраціўляюцца таму, што ім навязваюць. Пачынаючы ад правальнай спробы англічан навязаць пратэстантызм да спробаў прышчапіць мясцовым алкаголікам любоў да светлай маркі піва Guinness. Тое ж самае было з мовай. Пакуль Ірландыя была калоніяй Англіі, ірландцы актыўна вывучалі родную мову.

Таму ў артыкуле робіцца радыкальная выснова: «Мы павінны выкарыстоўваць ядзерны варыянт — і цалкам забараніць нашу мову. Гэта абудзіць мяцежную ірландскую псіхіку і выкліча жаданне ведаць мову на самым дасканалым узроўні».

**Паводле ірландскай прэсы**

# Калі цела становіцца зброяй

Алег НОВІКАЎ

**Апошнім часам у беларускім палітычным лексіконе ўсё часцей чуваць пра «палітычную галадоўку». А між іншым гэтаму інструменту барацьбы за свае правы амаль 2500 гадоў.**



Фота www.etcetera.media

Увесь свет 17 сакавіка гучна адзначыў дзень Святога Патрыка — нацыянальнае свята ірландцаў, якія, магчыма, падаравалі свету не толькі кельцкі крыж і віскі. Не выключана, што яны прыдумалі і такі метад палітычнай барацьбы, як галадоўка. Аказваецца, у дахрысціянскай Ірландыі галадоўка, праўда, у выглядзе посту, актыўна выкарыстоўвалася для дасягнення справядлівасці. Рытуал, вядомы як Troscadh, дапускаў, каб тыя, хто пратэстуе супраць злачынства, праводзілі пост на парозе хаты злачынца. Для апошняга гэта была страшная страта іміджу, паколькі парушаўся закон гасціннасці. Дазволіць чалавеку памерці на парозе за правіну, у якой яго вінавацілі, лічылася вялікай ганьбай.

Зрэшты, на лаўры першаадкрывальніка ў гэтай сферы таксама прэтэндуе і Індыя. Прычым, практыка, калі хтосьці на знак пратэсту публічна посціцца каля дзвярэй чалавека, які, на погляд галадоўніка, парушыў нейкія правілы, была адмененая ўрадам толькі ў 1861 годзе. Гісторыкі лічаць, што метад галадоўкі ўзыходзіць да 750–400 гадоў да нашай эры. Згадкі пра яе сустракаюцца ў Рамаяне.

А вось піянерамі палітычнай галадоўкі ў наш час сталі суфражысткі — актывісткі руху за прадстаўленне жанчынам выбарчых правоў. У пачатку ХХ стагоддзя яны часта абвяшчалі галадоўкі ў брытанскіх турмах. Часам нават паспяхова. Так, Мэрыён Данлоп у 1909 годзе была вызваленая, паколькі ўлады не хацелі, каб яна памерла і стала пакутніцай.

Тады ж, прызнаючы эфектыўнасць галадовак у турмах, улады прыдумалі метад гвалтоўнага кармлення. Таксама супраць галадовак былі прыняты закон, які ў народзе празвалі «Закон пра катоў і мышэй». Галадоўкі дапускаліся, зняволеную адпускалі на волю, як толькі галадоўка выклікала сімптомы хваробы. Аднак калі здароўе суфражысткі аднаўлялася, яе зноў вярталі на нары.

Услед за феміністкамі галадоўку ўзялі на ўзбраенне змагары за незалежнасць Ірландыі. Найбольш гучнай акцыяй стала справа Томаса Эша, які быў асуджаны на два гады катаржных работ у 1917-м. Пасля таго, як ён абвясціў галадоўку, адміністрацыя пачала карміць яго сілком. У выніку Эша перавезлі ў шпіталь, дзе ён памёр праз пару гадзін. Пры расследаванні прычынаў смерці спецыялісты прыйшлі да высновы, што Эш памёр ад сардэчнай недастатковасці, якая стала вынікам прымусовага кармлення. Смерць Томаса Эша і 30-тысячная працэсія, якая праводзіла яго цела на могілкі, моцна паўплывалі на рашучасць ірландскага народа дамагацца незалежнасці.

Напэўна, на прыкладзе Ірландыі брытанцы вывучылі ўрок, і скарысталіся ім у Індыі, дзе ў турмах мясцовыя нацыяналісты, у тым ліку і Махатма Гандзі, таксама часта абвяшчалі галадоўкі. Адзін з такіх вязняў-галадоўнікаў у 1929-м нават паставіў «рэкорд» — прагаладаў 116 дзён. Брытанскія ўлады часта саступалі патрабаванням галадоўнікаў, каб не ствараць ім папулярнасць.

**Акрамя прымусовага кармлення і кампаній па дыскрэдытацыі стаў папулярным медыятролінг галадоўнікаў. Каб не дапусціць стварэння ім культу пакутнікаў, іх учынкі малююць як пародыю на галадоўку**

А вось па той бок жалезнай заслоны ў выпадку галадовак у турмах, як правіла, ужывалася гвалтоўнае кармленне. Так, у 1970–1980-я ахвярай такой практыкі быў фізік і грамадскі дзеяч Дзмітрый Сахараў, які неаднаразова абвяшчаў галадоўкі. Пазней ён узгадваў: «Мяне валілі на ложак, прывязвалі рукі і ногі. Нос зацiскалі, так што дыхаць я мог толькі праз рот. Калі ж я адкрываў рот, каб удыхнуць паветра, у рот улівалася лыжка пажыўнай сумесі з булёну з працёртым мясам. Часам рот адкрывалі прымусова з дапамогай рычага, які быў устаўлены паміж дзясен».

Вялікі ўплыў на падыходы ўладаў да палітычнай галадоўкі аказала справа баевікоў Ірландскай Рэспубліканскай Арміі (IRA), якія пачалі галадоўку ў брытанскіх турмах у 1981 годзе. Патрабаванні падаваліся не такімі і жудаснымі: вярнуць статус палітычных зняволеных, права не насіць турэмную робу, права на адзін візіт, адну пасылку і адзін ліст на тыдзень і гэтак далей. Аднак урад адмовіўся ісці на саступкі.

5 траўня 1981 года памёр Бобі Сэндс, пасля чаго тагачасная прэм'ерка Маргарэт Тэтчар прамовіла знакамітую фразу: «Ён сам зрабіў выбар забраць у сябе ўласнае жыццё». Адначасова ў прэсе пачалася кампанія за жорсткае стаўленне да ўдзельнікаў галадовак. «Шантаж праваліўся. Грамадства, якое жорстка супрацьстаяла гвалту на працягу доўгіх крывавых гадоў, застанецца непахісным», — пісала, напрыклад, The Sun. За кошт атакі прэсы галадоўкі, якая раней выклікалі як мінімум гуманістычнае спачуванне, пачалі прадстаўляць як форму шантажу і маніпуляцыі.

Цяпер арсенал барацьбы з палітычнымі галадоўкамі стаў яшчэ больш разнастайны. Акрамя прымусовага кармлення і кампаній па дыскрэдытацыі стаў папулярным медыятролінг галадоўнікаў. Каб не дапусціць стварэння ім культу пакутнікаў, іх учынкі малююць як пародыю на галадоўку. Такім чынам, напрыклад, у 2012-м украінскія праўладныя СМІ апісвалі галадоўку Юліі Цімашэнка, якая трапіла тады за краты. «За дзесяць дзён галадоўкі Юлія Цімашэнка паправілася на два кілаграмы!» — жартавалі журналісты, блізкія да Партыі рэгіёнаў.

Тым не менш, метад «палітычнай галадоўкі» па-ранейшаму ў модзе. Калі мы адкрыем навінавыя сайты, то выявім, што акрамя зняволеных у беларускіх турмах сёння пад палітычнымі лозунгамі галадаюць індыйскія прафсаюзнікі, анархіст у афінскім «цэнтрале», эколагі Чыкага, мігранты на Канарскіх выспах і гэтак далей. Для большасці з гэтых людзей галадоўка, безумоўна — акт адчаю, апошні сродак быць пачутым. Ці пачуе людзей дзяржава, напэўна, залежыць ад ступені яе цывілізаванасці і ўзроўню палітычнай культуры.

# Незабыты мір

Алег НОВІКАЎ

**18 сакавіка споўнілася сто гадоў ад падпісання Рыжскага міру. Перафразуючы савецкіх дакладчыкаў, прыйшоў час вызначыцца, з чым мы падышлі да юбілею.**




Фота www.lv.baltnews.com

Рыжскі мір вельмі часта таксама называюць «забыты мір», што для некаторых гісторыкаў вельмі дзіўна. На іх думку, дамова забяспечыла пэўную стабільнасць ва Усходняй Еўропе, што дазваляе называць сістэму, якая існавала з 1919 па 1939 гады, не «версальскай», а, хутчэй, «версальска-рыжскай».

На самай справе, пакуль ёсць палітыкі-папулісты, якія робяць гешэфт за кошт гістарычных траўмаў, пра Рыжскі мір дакладна не забудуць. Напрыклад, у 2017-м дэпутат Сейма Польшчы ад правай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) Ян Масіньскі запатрабаваў ад МЗС правесці перамовы з Масквой пра ваенныя рэпарацыі на суму ў 30 мільёнаў рублёў золатам. Гэтыя грошы, на яго думку, расіяне павінны выплаціць у рамках узятых на сябе абавязацельстваў у Рызе ў 1921 годзе.

Не забываюць пра рыжскі трактат і ў Маскве. Тут дасюль не могуць прабачыць Тухачэўскаму правал захопу Варшавы ўлетку 1920-га. Па слядах той катастрофы і давялося садзіцца за стол перамоў у Рызе. Рыжскі мір таксама разглядаюць як пачатак адліку часу да старту новай, Другой сусветнай вайны. Занадта былі відавочныя супярэчнасці той дамовы, некаторыя пункты якой, дарэчы, падпісанты праігнаравалі.

Ёсць і іншыя падыходы. Набыў папулярнасць тэзіс пра тое, што Варшава і Масква дасюль захавалі забабоны, якімі кіраваліся сто гадоў таму. Згодна з імі, тэрыторыі, якія ляжаць паміж РСФСР і Польшчай, разглядаюцца вядучымі палітыкамі гэтых краін як складовыя часткі іх планаў умацавання пазіцый сваіх дзяржаў. Народы, якія пражываюць тут, адпаведна, трактуюцца пераважна ўтылітарна, іх меркаваннем адносна ўласнага лёсу ні ў Маскве, ні ў Варшаве не цікавіліся і цікавіцца не збіраюцца.

Развіваючы думку, крытыкі традыцыі БССР увогуле ўздымаюць пытанне пра марыянетачную прыроду гэтай фармацыі. На іх думку, пра тое сведчыць факт, што Беларуская ССР не была прадстаўлена на перамовах у Рызе. Зрэшты, нават гэтыя гісторыкі прызнаюць, што палякі з часам самі аддалі ў рукі савецкаму Мінску ідэю аб'яднання краю.

Не так даўно з'явілася цікавая тэорыя супрацьстаяння планаў маскоўскага «буферызму» і польскага «федэралізму» (ідэя адраджэння польска-літоўскай федэрацыі). Апошні пражэкт не спрацаваў праз фанабэрыю польскай эліты. Затое бальшавікі па ходзе краху ідэй сусветнай рэвалюцыі пачалі глядзець на Беларусь праз прагматычныя акуляры. Як пісаў наркам замежных спраў Георгій Чычэрын, «аптымальным сродкам прадухілення расійска-польскай вайны магло стаць толькі стварэнне фармальна незалежнай ад Масквы беларускай савецкай дзяржавы».

У сучасных украінскіх дэбатах Рыга–1921 успрымаецца досыць адметна. Акцэнт робіцца на тым, што Рыжскі мір, які зафіксаваў крах тагачасных спробаў дамагчыся незалежнасці Украіны, стаў у тым ліку вынікам упартага нежадання Антанты прызнаць яе ў якасці суверэннай краіны на палітычнай мапе Еўропы. Такім чынам, Захад, які цяпер тармозіць інтэграцыю Украіны ў заходнія вайскова-палітычныя структуры, можа, маўляў, паўтарыць памылку стогадовай даўніны.

Найбольш арыгінальныя думкі наконт юбілею можна прачытаць у тэкстах расійскіх патрыётаў, дзе прагназуюць хуткі «Рыжскі мір–2». Як лічаць некаторыя з іх, Польшча скарыстаецца цяперашнім хаосам ва Украіне для яе падпарадкавання прыкладна такім жа чынам, як Пілсудскі ў 1920-м навязаў слабаму Пятлюру дамову пра фактычны патранат Польшчы над Украінай. Не кажучы пра тое, што да Польшчы, паводле той дамовы, адыходзілі Усходняя Галіцыя, Холмшчына, Падляшша, частка Палесся і сем з дванаццаці паветаў Валыні. Але самая вялікая здрада была наперадзе. Ужо пасля бальшавіцка-польскай вайны Пілсудскі пагадзіўся прызнаць Украінскую ССР, што паставіла крыж на ўкраінскай дырэкторыі.

**Палякі дасюль з жахам узгадваюць часы, калі каля трацiны насельніцтва Польшчы складалі нацменшасці, якія актыўна змагаліся за свае правы, у тым ліку тэрарыстычнымі сродкамі**

«Польшча ў сваім фармаце ўжо ўсяго дасягнула, а значыць, вычарпала сябе. І, з польскіх пазіцый, цалкам лагічна лічыць, што для далейшага ўзмацнення і развіцця патрэбныя новыя тэрыторыі. Прынцып непарушнасці пасляваенных межаў чым далей, тым больш падвяргаецца сумневу. Так што, чым слабейшая Украіна і чым часцейшымі становяцца прэцэдэнты перакройвання межаў у Еўропе, тым больш спакусаў у Варшаве. Украінскія землі могуць зноў стаць польскімі, як гэта ўжо было неаднойчы ў гісторыі, калі палякі для іх захопу карысталіся слабасцю Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XIV стагоддзя або распадам Расійскай імперыі і Грамадзянскай вайной на яе руінах у дваццатыя гады мінулага стагоддзя», — піша Яраслаў Тынчанка.

Між тым, у самой Польшчы Рыжскі мір якраз разглядаюць як крах ідэі федэральнай дзяржавы з удзелам народаў былой Рэчы Паспалітай. «Для Пілсудскага гэта быў канец яго мараў аб Рэспубліцы Польшча як федэрацыі дзяржаў», — піша Gazeta.pl. І такі вынік успрымаецца хутчэй пазітыўна. Палякі дасюль з жахам узгадваюць часы, калі каля трацiны насельніцтва Польшчы складалі нацменшасці, якія актыўна змагаліся за свае правы, у тым ліку (як украінскія нацыяналісты) тэрарыстычнымі сродкамі. Некаторыя польскія гісторыкі скардзяцца, што Рыжскі мір — трыумф Пілсудскага — заклаў фундамент культу асобы маршала і ўвогуле жаўнера. Гэта дазволіла таму ж Пілсудскаму ў 1926 годзе дастаткова лёгка арганізаваць путч, пасля якога краіна пачала каціцца ў аўтарытарызм.

Як бачым, погляды на Рыжскі мір і яго наступствы вельмі розняцца. Кампраміс, думаецца, усё ж прапанавала згаданая Gazeta.pl. Пасля сямі гадоў вайны для абсалютна большасці насельніцтва рэгіёну навіна пра хоць нейкі мір была ўсё ж пазітывам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Мая Санду

Прэзідэнтка Малдовы абвясціла 15 сакавіка агульнанацыянальную жалобу з нагоды смерці ад каронавіруса паэта Мікалая Дабіжа. На ўсёй тэрыторыі краіны былі прыспушчаныя сцягі, цырымонія пахавання транслявалася на дзяржаўным тэлеканале.

Такая ступень смутку многіх здзівіла, паколькі Дабіжа быў вельмі неадназначнай фігурай. У маладосці ён атрымліваў дзяржаўныя прэміі за вершы пра Леніна, але потым аказаўся ў ліку тых, хто першым падпісаў Дэкларацыю аб незалежнасці Малдовы. Апошнім часам ён пачаў пісаць экстравагантныя тэксты, у якіх тлумачыў, што ад змяшаных міжнацыянальных шлюбаў нараджаюцца бандыты і прастытуткі. У прыватнасці, ён на поўным сур'ёзе сцвярджаў, што 60% псіхічна хворых людзей — прадстаўнікі змяшаных сем'яў, у 70% злачынцаў — бацькі розных нацыянальнасцяў або рэлігій. Але самае смешнае, крыніцу правалаў сучаснай Малдовы ён бачыў у тым, што больш за 50 працэнтаў палітыкаў ва ўладзе народжаныя ад змяшаных шлюбаў.

Жыццё пісьменніка не абышлося без кур'ёзных момантаў. Міністэрства аховы здароўя пераблытала яго з іншым пісьменнікам — і падало памылковае паведамленне пра смерць яшчэ жывога літаратара ў парламент краіны. У сувязі з гэтым малдоўскія дэпутаты ўшанавалі хвілінай маўчання не таго чалавека.

Навошта Санду спатрэбілася абвяшчаць жалобу па пісьменніку? Можна дапусціць, што яна спрабуе кансалідаваць вакол сябе правы электарат на фоне новай хвалі чутак пра датэрміновыя парламенцкія выбары.

### Жанін Аньес



Былая выконваючая абавязкі прэзідэнта Балівіі на сваім прыкладзе пацвердзіла тое, які зменлівым можа быць лёс палітыка.

Яе драма пачалася ў кастрычніку 2019 года, калі пасля правядзення прэзідэнцкіх выбараў у краіне пачаўся поўны хаос. Спарадзіў яго шмат у чым прэзідэнт Эва Маралес, які вырашыў балатавацца на чацвёрты тэрмін запар, хаця самі грамадзяне ў 2016 годзе выказаліся супраць яго новай балаціроўкі на рэферэндуме. Напэўна таму перамога Маралеса выклікала недавер у часткі насельніцтва і стала падставай путчу вайскоўцаў, якія захапілі ўладу. Маралес паспеў збегчы з краіны. Вакантную прэзідэнцкую пасаду вырашыла да новых выбараў заняць Аньес — і яна, напэўна, збіралася кіраваць краінай і далей. Аднак на тых самых новых прэзідэнцкіх выбарах перамогу атрымаў прыхільнік Маралеса. А паколькі прэзідэнцкая партыя раней выйграла яшчэ і парламенцкія выбары, рэванш быў татальны.

Неўзабаве ў краіну вярнуўся Маралес, які вырашыў расправіцца з путчыстамі. Многія з іх адразу падаліся за мяжу. А вось Аньес чамусьці засталася дома і вырашыла схавацца ад праваахоўнікаў пад ложкам, дзе яе ў стане шоку і знайшлі паліцыянты.

У прынцыпе, псіхалагічны стан жанчыны зразумець можна. Яшчэ паўгода таму яна кіравала краінай, а цяпер, хутчэй за ўсё, трапіць у турму. Яе і іншых удзельнікаў дзяржаўнага перавароту вінавацяць у тэрарызме, здрадзе дзяржаве і злачыннай змове.



### Махінда Раджапаксэ

Прэм'ер-міністр Шры-Ланкі, адзін з лідараў Партыі свабоды Шры-Ланкі, абверг тэзіс, што будызм (асноўная рэлігія ў дзяржаве) прапагандуе выключна талерантнасць.

Калі верыць праваабаронцам, на востраве збіраюцца прыняць самы суровы ксенафобскі закон на планеце. Ён тычыцца мусульманскай меншасці. Урад абвясціў пра планы забараніць нашэнне паранджы і закрыць усе мусульманскія школы на выспе ў мэтах барацьбы з тэрарызмам. Нашэнне паранджы ўвогуле называецца «прыкметай рэлігійнага экстрэмізму», што «ставіць пад пагрозу нацыянальную бяспеку». Законапраект яшчэ не ўхвалены парламентам. Аднак гэта, здаецца, пытанне часу: урад, які фарміруюць партыі нацыяналістаў і клерыкалы, мае большасць у дзве трацiны дэпутатаў.

Прычым шмат хто з парламентарыяў называе гэты законапраект нават ліберальным, бо выступае за тое, каб жанчынам у паранджы не дазвалялі карыстацца грамадскім транспартам і наведваць бальніцамі.

Праваабаронцы і апазіцыя лічаць, што заявы міністра дэманізуюць мусульманскіх жанчын і робяць іх мішэнню радыкальных будыстаў, якія на забароне паранджы яўна не спыняцца. Цяпер уся надзея праваабаронцаў на сусветную грамадскасць. Раней урад Раджапаксэ запатрабаваў ад мусульман Шры-Ланкі крэміраваць нябожчыкаў замест традыцыйнага пахавання, як патрабуе іх абрад. Пасля просьбаў з боку Пакістана скандальнае рашэнне адмяніў.

# Пытанні і адказы з гісторыі БНР

**Ці шмат вы ведаеце пра Беларускую Народную Рэспубліку? Чаму Дзень Волі адзначаецца 25 сакавіка? Прапануем вам асноўныя пытанні і адказы пра гэтую гераічную старонку нашай гісторыі.**



### Што такое Дзень Волі?

25 сакавіка 1918 года ў акупаваным немцамі Мінску Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (былы выканкам Усебеларускага з'езду) прыняла Трэцюю ўстаўную грамату, якой БНР абвяшчалася свабоднай і незалежнай дзяржавай. Рада БНР аб'явіла, што Брэсцкая мірная дамова, падпісаная бальшавікамі і немцамі, страціла моц, таму заклікала перагледзець яе ўмовы.

Немцы адказалі на Акт 25 сакавіка разгонам Рады БНР і Народнага Сакратарыяту, а пасля і іх забаронай. Аднак органы ўлады працягвалі дзейнічаць у Беларусі, а пасля на эміграцыі. І цяпер у замежжы існуе Рада БНР на чале з Івонкай Сурвілай, якая захоўвае традыцыі сваіх папярэднікаў.

Трэцяя ўстаўная грамата Рады БНР, якой абвяшчалася дзяржаўная незалежнасць Беларусі, была прынятая раніцай 25 сакавіка на пасяджэнні Рады ў Мінску па адрасе Серпухоўская, 9 (цяпер гэта Валадарскага, 9). На трэцім паверсе яшчэ ў сярэдзіне сакавіка была арэндаваная ў сялянскага пазямельнага банку зала для пасяджэнняў.

### Хто ўваходзіў у першы ўрад (Народны Сакратарыят) БНР?

Першы Беларускі ўрад (Народны Сакратарыят) быў створаны Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага з'езду 20 лютага 1918 года ў Мінску, які пасля ўцёкаў бальшавікоў узялі пад кантроль беларускія паўстанцы. Спачатку ва ўрад на чале з Язэпам Варонкам уваходзілі 7 чалавек, але пасля іх колькасць была даведзеная да 15-ці. Паводле ўспамінаў Канстанціна Езавітава, склад Першага ўрада БНР быў наступны:

Язэп Варонка — старшыня (прэм'ер-міністр) і народны сакратар (міністр) міжнародных спраў, Іван Макрэеў — міністр унутраных спраў, Аркадзь Смоліч — асветы, Яўхім Бялевіч — справядлівасці, Янка Серада — народнай гаспадаркі, Віктар Рэдзька — шляхоў зносін, Тамаш Грыб — земляробства, Палута Бадунова — апекі, Алесь Карач — пошты і тэлеграфу, Пятро Крачэўскі — кантролю, Гелій Белкінд — фінансаў, Павел Злобін — вялікарускіх спраў, Мойша Гутман — «першы таварыш» (першы намеснік) старшыні і сакратар яўрэйскіх спраў, Канстанцін Езавітаў — «другі таварыш» старшыні і народны сакратар вайсковых спраў, Лявон Заяц — загадчык спраў Народнага Сакратарыяту.

У далейшым склад першага ўраду мяняўся, у тым ліку і з-за таго, што ў красавіку ў знак пратэсту супраць прыняцця 3-й устаўной граматы падалі ў адстаўку Макрэеў, Злобін, Белкінд.

### Ці мела БНР узброеныя сілы?

БНР не паспела стварыць беларускае войска, але такія спробы неаднаразова рабіліся. Беларускія часткі пачалі стварацца ў складзе рускай арміі яшчэ ўвосень 1917 года. У лютым 1918-га, калі ўладу ў Мінску ўзяў у свае рукі выканкам Усебеларускага з'езда, быў створаны 1-шы Мінскі беларускі полк, які праіснаваў да прыходу нямецкіх войскаў.

Паводле падлікаў гісторыка Алега Латышонка, аўтара кнігі «Жаўнеры БНР», у беларускіх вайсковых аддзелах на працягу 1917–1923 гадоў служылі каля 11 тысяч чалавек, пераважна добраахвотнікаў. Найбольш гераічны эпізод барацьбы за БНР — Слуцкі збройны чын 1920 года, калі спешна сфарміраваная Слуцкая брыгада стральцоў БНР на працягу месяца вяла баі з Чырвонай Арміяй.

Дзясяткі тысяч чалавек уваходзілі ў партызанскія аддзелы, у тым ліку і тыя, што ваявалі за дзяржаўную незалежнасць БНР (Лукаша Семенюка, Юркі Моніча, Вячаслава Адамовіча-«Дзергача» ды іншых). А яшчэ на румынскім фронце ў 1917 годзе ствараўся беларускі корпус, які не ўдалося перакінуць у Беларусь для падтрымкі ўраду БНР.

Пра свае сімпатыі да БНР заяўляў і генерал-маёр Станіслаў Булак-Балаховіч, які са сваім аддзелам у 1919 годзе на нейкі час перайшоў «на беларускую службу» («Асобны атрад БНР»), а пасля разам з польскімі войскамі ваяваў супраць бальшавікоў. У лістападзе 1920-га Булак-Балаховіч аб'явіў у Мазыры «незалежную беларускую дзяржаву», але неўзабаве яго армія была разбітая Чырвонай Арміяй і адышла ў Польшчу.

### Якія былі межы БНР?

Трэцяя ўстаўная грамата Рады БНР згадвала і тэрытарыяльныя межы краіны: «Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае колькасную перавагу беларускі народ, а менавіта: Магілёўшчыну, беларускія часткі Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губерняў, населеных беларусамі».

Для таго, каб на міжнародных канферэнцыях знаёміць заходніх палітыкаў з Беларуссю і яе межамі, у 1918 годзе была выдадзеная карта БНР.

Органы ўлады БНР паслядоўна адстойвалі межы краіны. У кастрычніку 1918 года Рада БНР даслала рэйхсканцлеру Германіі пратэст на прэтэнзіі Польшчы на памежныя вобласці Беларусі, у тым ліку Гродна, Беласток і Брэст. У снежні 1918-га Рада Міністраў БНР пратэставала супраць уключэння Беласточчыны і Бельшчыны ў склад Польшчы.

### Якія палітычныя сілы ўдзельнічалі ў стварэнні БНР?

Галоўнай сілай у беларускім нацыянальным руху была Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ). Менавіта яе сябры былі стваральнікамі БНР. У першы ўрад БНР Язэпа Варонкі ўвайшлі прадстаўнікі БСГ, расійскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў і яўрэйскіх сацыялістычных арганізацый. Аднак многія расійскія і яўрэйскія дзеячы негатыўна ставіліся да ідэі абвяшчэння незалежнасці Беларусі, яны былі прыхільнікамі аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай Дэмакратычнай Рэспублікі. У выніку гэтыя дзеячы ў пачатку красавіка 1918-га з ураду выйшлі.

Правыя беларускія дзеячы («кансерватары») гуртаваліся вакол «Менскага беларускага прадстаўніцтва», лідарам якога быў Раман Скірмунт. Яны выступалі супраць нацыяналізацыі зямлі і ў гэтым розніліся з сацыялістамі. Таксама Скірмунт і яго прыхільнікі спадзяваліся на дапамогу Германіі ў адбудове беларускай дзяржаўнасці. У склад Рады БНР правыя былі кааптаваныя толькі ў красавіку 1918-га. Некаторыя беларускія даследчыкі лічаць, што адсутнасць паразумення паміж беларускімі левымі і правымі палітычнымі сіламі значна зменшыла шанцы на поспех барацьбы за незалежную беларускую дзяржаўнасць.

### Як адрэагавалі рэгіёны Беларусі на абвяшчэнне незалежнасці БНР?

Рада БНР здолела атрымаць падтрымку ў многіх рэгіёнах Беларусі і паступова пашырала свой уплыў. У Мінск дасылаліся пастановы з павятовых гарадоў аб прызнанні ўлады Ураду БНР. Яны прыйшлі з Бабруйска, Радашковічаў, Барысава, Слуцка, Нясвіжа, Наваградка, Койданава, Рэчыцы ды іншых гарадоў. Беларускія рады выказваліся за стварэнне «адзінай непадзельнай Беларусі ў форме БНР».

### Ці паспела БНР увесці свае грошы?

Беларускіх грошай у той час не было створана. На тэрыторыі Беларусі адначасова выкарыстоўваліся царскія рублі, «керанкі», польскія, нямецкія грошы. Аднак часам можна сустрэць згадку пра «рубель БНР». Так некаторыя даследчыкі называюць «картаткэрміновую бону на суму 1 рубель», выдадзеную Слуцкім павятовым земствам у 1918 годзе.

### Якія краіны прызналі незалежнасць БНР?

Пытанне з прызнаннем БНР іншымі краінамі яшчэ недастаткова даследавана, звесткі часам супярэчлівыя. Напрыклад, гісторык Анатоль Сідарэвіч у адной з публікацый адзначае, што ў 1919–1920 гадах БНР дэ-юрэ або дэ-факта прызналі Германія, Латвія, Літва, Эстонія, Чэхаславакія, Балгарыя, Фінляндыя, Турцыя, Украіна. У гэтых краінах працавалі беларускія дыпламатычныя і вайскова-дыпламатычныя місіі, консульствы і прадстаўніцтвы (у Каўнасе, Рызе, Канстанцінопалі, Кіеве, Адэсе, Празе, Берліне, Гданьску, Капенгагене ды іншых гарадах). А вось гісторык Уладзімір Ляхоўскі сцвярджае, што ўсе гэтыя прадстаўніцтвы не мелі юрыдычнага прызнання.

### Якую сімволіку прыняла БНР?

У 1918 годзе кіраўнічыя органы БНР зацвердзілі ў якасці дзяржаўнай сімволікі бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

Упершыню бел-чырвона-белы сцяг быў узняты над будынкам губернатарскага дома ў Мінску пасля выгнання з горада бальшавікоў 19 лютага 1918 года.

### Які быў гімн БНР?

Гімнам БНР у 1920 годзе стаў ваяцкі марш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...», які напісаў Макар Краўцоў (Касцевіч, 1891 – ?), беларускі паэт і вайсковец. У Краўцова быў трагічны лёс — напрыканцы 1939 года ён быў арыштаваны НКВД і ад таго часу пра яго нічога не вядома.

### Якая мова была абвешчаная дзяржаўнай у БНР?

У красавіку 1918 года Народны Сакратарыят БНР прыняў пастанову аб абвяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай. Ад таго часу ўся дакументацыя мусіла весціся выключна на беларускай мове.

### Ці існаваў пашпарт грамадзяніна БНР?

Кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі паруплілася пра друк беларускіх пашпартоў. Агульнаграмадзянскі пашпарт Беларускай Народнай Рэспублікі быў выдадзены ў 1918 годзе ў славянскай друкарні Язэпа Галеўскага ў Берліне. Ён складаўся з 12 старонак, на вокладцы была выява герба «Пагоня». У пашпарце пазначаліся месца і дата нараджэння, падданства, асаблівыя прыкметы (рост, колер валасоў, вачэй). Пашпарт можна было выкарыстоўваць для паездак за мяжу. Афіцыйныя ўрадавыя асобы БНР мелі дыпламатычныя пашпарты.

У Адэсе беларускае консульства зарэгістравала каля 16 тысяч грамадзян-беларусаў і выдавала ім пашпарты БНР. Берлінская місія БНР атрымала ад нямецкіх уладаў дазвол выдаваць пашпарты грамадзянам Беларусі, а былым ваеннапалонным-беларусам — урадавыя пасведчанні. Так было выдадзена дзве тысячы пашпартоў. Іх уладальнікі, дарэчы, маглі жыць у краінах Еўропы, атрымаць візу на пераезд у Амерыку ці вярнуцца на радзіму.

Паводле гісторыка Уладзіміра Ляхоўскага, пашпарты БНР выкарыстоўваліся да канца 1920-х гадоў.

### Ці быў прыняты закон аб грамадзянстве БНР?

Закон аб грамадзянстве Беларускай Народнай Рэспублікі быў прыняты ў снежні 1919 года Радай БНР. Паводле гэтага закону, беларускім грамадзянінам лічылася кожная асоба, якая да 1914 года жыла на тэрыторыі Беларусі і карысталася правам расійскага падданства. Такіх людзей у беларускае грамадзянства залічвалі аўтаматычна і выдавалі нацыянальныя пашпарты. Двайное грамадзянства забаранялася і лічылася «дзяржаўнай здрадай».

### Колькі праіснавала Беларуская Народная Рэспубліка?

Актыўная дзейнасць Рады і Ураду БНР працягвалася ў Беларусі ў 1918–1919 гадах. Кіраўнічыя органы БНР з'ехалі на эміграцыю ў 1919 годзе, знаходзіліся ў Літве, Германіі, Чэхіі. У 1925 годзе савецкія спецслужбы спрабавалі арганізаваць ліквідацыйны сход Рады і Ураду БНР. Аднак старшыня Рады БНР Пятро Крачэўскі, а пасля яго і Васіль Захарка засталіся верныя незалежніцкім ідэалам. Яны жылі ў Празе, дзе перахоўвалі архіў БНР. У паваенны час Рада і Урад БНР былі адноўленыя ў Заходняй Германіі новай хваляй беларускай эміграцыі.

### Які быў лёс у стваральнікаў БНР?

У пераважнай большасці стваральнікаў БНР быў трагічны лёс. У 1920–1930-х гадах яны былі арыштаваныя і знішчаныя савецкімі карнымі органамі. Сярод іншых такі лёс спаткаў прэм'ераў Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага. А першы старшыня Рады БНР Янка Серада нейкім цудам выжыў і ў 1942 годзе выйшаў са зняволення ў Сібіры, аднак, што з ім далей сталася — невядома.

Толькі некаторыя дзеячы БНР жылі ў вольным свеце і там скончылі свой зямны шлях — Язэп Варонка (пахаваны ў ЗША), Пятро Крачэўскі, Васіль Захарка, Тамаш Грыб (пахаваны ў Празе).

# Такі футбол нам не трэба?

Сяргей КАЙКО

**На выходных распачаўся чарговы чэмпіянат краіны па футболе, і ўжо пасля першага тура аглядальнікі і эксперты вымушаны чухаць рэпу. Як гэта: пасля доўгай зімовай спячкі, пасля гучных навін міжсезоння і шэрагу сенсацыйных трансфераў стартавы ўік-энд — звычайна самы доўгачаканы — зусім не карыстаўся попытам у гледачоў.**



Фота Прэс-службы ФК «Іслач»

Іслач — Славіч: салдаты ў ролі гледачоў

«Мы адкрыліся!» — крычалі афішы нібыта перад запускам «Мак-Дональдса» ў якой-небудзь сталічнай Серабранцы. Гучала музыка, шырока адчыняліся дзверы… Аднак спажывец па свежыя бургеры чамусьці не пайшоў. Усё, што зрабіў у адказ, — фактычна паклаў болт на абяцаныя асалоду і відовішчы.

Чаму так? Паспрабуем адказаць. Але напачатку — крыху лічбаў.

## 544 у сярэднім на гульні

Усяго прайшлі восем матчаў, сукупная аўдыторыя якіх склала 4348 гледачоў. Каб зразумець, наколькі мізэрная гэта колькасць, дастаткова адматаць плёнку на год назад — і паглядзець на статыстыку першага тура чэмпіянату–2020.

Тут адразу варта адзначыць важную акалічнасць: летась у сакавіку імкліва набірала моц пандэмія каронавіруса. Ковід крочыў па планеце сямімільнымі крокамі, і футбол ставілі на каранцін усюды — у Еўропе, Азіі, абедзвюх Амерыках, Аўстраліі і Афрыцы. Беларусь, аднак, пайшла сваім адметным шляхам, кадыфікаваўшы «карону» азначэннем «псіхоз». Чэмпіянат у нас не толькі распачаўся, але і гледачоў на трыбуны дазволілі пускаць. Вядома, з вялікімі перасцярогамі, маўляў, насіце маскі, трымайце дыстанцыю, карыстайцеся санітайзерамі, якіх панатыкалі на кожным уваходзе на стадыён. Да таго ж кожнаму заўзятару, каб два разы не ўставаць, вымяралі ля турнікетаў тэмпературу з дапамогай спецыяльнага бескантактнага абсталявання.

Зразумела, што такі своеасаблівы рэжым — прыплюсаваны да агульнага эпідэміялагічнага саспенсу ў краіне — не дадаў заўзятарам імпэту. Многія з тых, хто хацеў рушыць на стадыён, у выніку засталіся дома — бо здароўе даражэйшае.

Дык вось, нават у тых абставінах народу на футбол завітала нашмат больш, чым цяпер, калі, згодна з афіцыйнымі рэляцыямі, каронавірус рашуча пераможаны і пакорліва здаўся ў палон. Год таму, не пабаяўшыся захварэць, гульні першага тура наведалі 9574 чалавекі. У сярэднім гэта 1197 заўзятараў на адным матчы. Цяпер маем лічбы ганебна меншыя — 544 гледачы — і гэта больш, чым удвая меней. Так бы мовіць, адчуйце розніцу.

І ў дадатак пасмакуйце падрабязнасці. Матч-адкрыццё першынства, у якім сустракаліся «Іслач» з мазырскай «Славіяй», прайшоў амаль незаўважным. Гэта заўсёды было нешараговай падзеяй, аднак цяпер яе ўшанавалі ўвагай усяго 180 заўзятараў — смяхотны паказчык. Выступаючы перад трыбунамі з казёна-ўзнёслай прамовай, старшыня футбольнай федэрацыі і былы артылерыст Уладзімір Базанаў не мог не бачыць, што яго патэтычныя словы ляцяць збольшага ў бок пустых крэслаў стадыёна ФК «Мінск». Ляцяць у вакуум, які вычарпальна адлюстроўвае бягучую цікавасць беларусаў да самай папулярнай гульні ў свеце.

## Дарма не здаўся

І добра б, каб паход на футбол быў дужа стратны для ўласнага гаманца. Дык не. Гэта недзе ў знешнім сусвеце за задавальненні трэба шмат плаціць — за канцэрты, выставы, тэатральныя імпрэзы. Беларускі футбол у гэтым сэнсе — з'ява часта выключна дабрачынная.

Напрыклад, у мінулыя выходныя роўна палову гульняў чэмпіянату Беларусі можна было наведаць бясплатна. Як Плошчу Перамогі ці якія Усходнія могілкі. Так ужо выбудаваны наш спорт, што з'яўляецца сацыяльным праектам, які амаль цалкам існуе за дзяржаўны кошт. Усё, што трэба для яго сузірання, — жывая цікавасць і шчырае жаданне. Аднак ні таго, ні другога ў першым туры беларусы не праявілі.

Цікава, што і там, дзе за ўваход прасілі грошы, аніякага жорсткага ашчэру капіталізму не было і блізка. Квіткі на трыбуны каштавалі крыху больш, чым нічога, — на ўзроўні кубку капучына ў звычайным сталічным кафэ. То-бок ад 2,5 да 5 рублёў. Пабразгаў кішэнямі — дый знайшоў дробязі на яскравае баўленне часу. Але ж зноў жа — ніхто асабліва бразгаць не захацеў.

Чаму? Прынамсі, адна з прычын была вядомая загадзя. І мы пра гэта таксама згадвалі — гульням нацыянальнага першынства абвесцілі байкот фанаты. Да гэтага стыхійнага «страйку» далучыліся ультрас 12 клубаў. Яшчэ чатыры суполкі — брэсцкага «Руху», мазырскай «Славіі», рэчыцкага «Спадарожніка» і сталічнага «Энергетыка» — ініцыятыву не падтрымалі. З розных прычын — у тым ліку таму, што паўнавартасных, структураваных фанацкі «сапарт» у згаданым квартэце маюць хіба што мазыране. Таму наогул можна сказаць, што так званыя «актыўныя заўзятары» ў беларускім футболе сёлета зніклі як клас. Як надоўга? На гэтае пытанне яны адказалі самі: пакуль сітуацыя ў краіне не зменіцца. Ці іншымі словамі — пакуль перамога не будзе дасягнутая не на футбольным полі, а на грамадска-палітычным.

## У салдата выходны

Аднак фанаты — гэта толькі частка футбольнай аўдыторыі, хай і частка важная. Большасць жа гледачоў традыцыйна складаюць простыя людзі — у асноўным тыя самыя «кузьмічы», якіх вабіць на стадыён выключна спартыўныя, відовішчныя складнік. І тое, што яны таксама ігнаравалі адкрыццё чэмпіянату, — і ёсць сапраўдная сенсацыя. Прыроду якой, здаецца, спасцігнуць нескладана.

Футбол папросту перастаў цікавіць многіх беларусаў — і ўсё па той жа прычыне: стала банальна не да яго. Бо цяжка настроіць сябе на забаўляльную хвалю, калі наўкол працягваецца трэш. І праходзяць палітычныя суды, і выносяцца палітычныя прысуды, і ладзяцца палітычныя рэпрэсіі. І славутыя «бусікі» дагэтуль шлындаюць па вуліцах ды дзе-нідзе затрымліваюць людзей за хоць якое іншадумства ці іншадзеянне. Калі там, наверсе, «часам не да законаў», то тут, унізе, «часам не да футбола». Права галасаваць нагамі — адно з нямногіх, якое захавалася ў беларусаў пасля жніўня 2020-га.

Адметна, што футбольныя чыноўнікі нібыта прадбачылі гэтую ўсеагульную заўзятарскую млявасць і абыякавасць да жыцця. І каб хоць неяк запоўніць лакуны на стадыёнах, традыцыйна выкарысталі дадатковы рэсурс. Так на трыбунах з'явіліся салдаты тэрміновай службы, за якіх можна толькі парадавацца. Бо якая-небудзь «Іслач» супраць «Славіі» — усё ж лепш, чым грукаць ботамі па армейскім пляцы.

Канешне, высновы з такой мізэрнай наведвальнасці матчаў рабіць заўчасна. Бо тэст на цікавасць да футбола прайшлі яшчэ не ўсе гарады. Гомель, Барысаў, Жодзіна, Віцебск — туды чэмпіянат завітае ў хуткай будучыні, у другім туры ці нават пазней. Там гульні дакладна пройдуць пры большай цікаўнасці тарсіды. І толькі пасля гэтага варта будзе рабіць нейкія высновы. Аднак увогуле трэнд азначыўся — паглядзім за яго развіццём.

## «Спадарожнік» і трава

Ну а што непасрэдна да футбола, то не шкада і яму сказаць пару ласкавых словаў. Сапраўды, вылучыць нешта незвычайнае з падзей першага тура складана. Тур як тур: у каго мацнейшыя футбалісты, лепшая загартоўка і больш грошай — тыя і перамаглі. Здзівіла хіба што недастатковая рухавасць «Руху», якому зімой ад брэсцкага «Дынама» адышлі ўсе шчодрасці бізнесоўца Аляксандра Зайцава — футбалісты, капітал, амбіцыі. Але для перамогі над «Гомелем», што толькі-толькі вярнуўся ў вышэйшую лігу, гэтага не хапіла.

Здзівіла і буйная параза жодзінскага «Тарпеда» ў гасцях у мінскага «Дынама». Не для таго белазаўцы мінулай восенню выгрызалі ў фінішным створы трэцяе месца, каб цяпер так бязвольна сканаць перад «дынамікамі». Аднак на выхадзе «абаранак» 0:3 — вынік, які пэўна не чакалі і самі мінчане.

Усё гэта той самы вясенні футбол — няспелы, незразумелы і падманлівы. Калі сонца канчаткова прагоніць апошні ляжалы снег і траўка на палях падрасце, гульня абавязкова пакажа іншыя грані і колеры. Іншыя вынікі і іншых герояў. І той, хто на старце атрымаў поўху, яшчэ не аднойчы ачухаецца, возьме рэванш і выставіць рахункі.

Зрэшты, адносна дзвюх каманд аптымістычных слоў у нашай кішэні пакуль няма. «Спадарожнік» і «Смаргонь» так квола глядзеліся ў суботу і нядзелю, што спарадзілі натуральную цікаўнасць: якога перуна тады яны пнуліся, стараючыся патрапіць у вышэйшую лігу? Каб мець такі бездапаможны выгляд?

Хаця тое ж самае пытанне варта задаць і федэрацыі. У імкненні любой цаной захаваць у мацнейшым дывізіёне 16 клубаў, БФФ гатова на любыя адчайныя крокі. І спрыяць адным у пошуку грошай, а другіх увогуле цягнуць у вышэйшую лігу за вушы. Каб яны там, такое ўражанне, абы былі — хай сабе нават прайграюць і вылятаюць зноў.

Ужо колькі гаварылася, што не той эканамічны і кадравы рэсурс у Беларусі — асабліва цяпер, падчас паслявыбарнай стагнацыі, — але форма ў нашых дзівосных рэаліях працягвае дамінаваць над зместам. І задно — над цвярозым разлікам і здаровым сэнсам.

## Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 1.** 12.03. ІСЛАЧ (Мінскі раён) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 1:0 (180 гледачоў; гол: Глушчанкоў, 88).

13.03. ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — СМАРГОНЬ — 3:0 (210; Шкурдзюк, 32, А.Васільеў, 77, Вігоўскі, 85). РУХ (Брэст) — ГОМЕЛЬ — 1:1 (415; А.Канцавы, 63 — Салавей, 76). ДЫНАМА (Мінск) — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — 3:0 (993; Навумаў, 53, Усцінаў, 74-аўтагол, Быкаў, 77). ШАХЦЁР (Салігорск) — МІНСК — 1:0 (800; Дарба, 88).

14.03. СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — ДЫНАМА (Брэст) — 0:4 (500; Сядзько, 21, з пенальці, Беленькі, 70, Шэсцюк, 75, Журневіч, 86). НЁМАН (Гродна) — ВІЦЕБСК — 0:0 (800). БАТЭ (Барысаў) — СЛУЦК — 3:0 (450; Умараў, 5, Міліч, 57, Скавыш, 84).

**ТУР 2.** 19.03. Славія — Тарпеда-БелАЗ, Іслач — Смаргонь. 20.03. Энергетык-БДУ — Шахцёр, Віцебск — Дынама Мн., Мінск — Рух, Дынама Бр. — БАТЭ. 21.03. Слуцк — Нёман, Гомель — Спадарожнік.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дынама Бр. | 1 | 1 | 0 | 0 | 4-0 | 3 |
| 2. | БАТЭ | 1 | 1 | 0 | 0 | 3-0 | 3 |
| 3. | Дынама Мн. | 1 | 1 | 0 | 0 | 3-0 | 3 |
| 4. | Энергетык-БДУ | 1 | 1 | 0 | 0 | 3-0 | 3 |
| 5. | Іслач | 1 | 1 | 0 | 0 | 1-0 | 3 |
| 6. | Шахцёр | 1 | 1 | 0 | 0 | 1-0 | 3 |
| 7. | Гомель | 1 | 0 | 1 | 0 | 1-1 | 1 |
| 8. | Рух | 1 | 0 | 1 | 0 | 1-1 | 1 |
| 9. | Віцебск | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 10. | Нёман | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 11. | Мінск | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-1 | 0 |
| 12. | Славія | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-1 | 0 |
| 13. | Слуцк | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-3 | 0 |
| 14. | Смаргонь | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-3 | 0 |
| 15. | Тарпеда-БелАЗ | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-3 | 0 |
| 16. | Спадарожнік | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-4 | 0 |

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай або адправіць яму грашовы перавод да Да дня народзінаў. Магчыма, хтосьці захоча даслаць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго надрукавалі.**

Працягваем публікаваць імёны тых, хто адзначыць свой дзень народзінаў у сакавіку. Шчыра віншуем усіх. Жадаем моцы, здароўя і вольнай Беларусі!

### 21 сакавіка

Дзень народзінаў у **Сяргея Уладзіміравіча Коршуна** — блогера тэлеграм-канала «Армія з народам». На працягу дзесяці гадоў служыў у міліцыі. Прыкладна дзесяць гадоў таму сышоў па ўласным жаданні ў званні капітана.

Быў затрыманы 21 ліпеня і змешчаны пад варту па падзеях 29 траўня ў Гродне. 5 жніўня яму было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 1 і ч. 2 арт. 342



КК (Арганізацыя або актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак). У лютым стала вядома, што артыкул Коршуну перакваліфікавалі на 293-ы КК (Масавыя беспарадкі).

***Адрас для лістоў:* *СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.***

А таксама ў **Міхаіла Шабалюка** — жыхара Брэста, асуджанага да трох гадоў калоніі па абвінавачанні паводле артыкула 363 КК РБ (Супраціў супрацоўнікам міліцыі) за падзеі 9 жніўня 2020 года ў горадзе.

Згодна з абвінавачаннем, ён разам з палітвязнем Аляксандрам Бабічам і іншымі людзьмі «з адзіным злачынным намерам» нібыта спрабаваў нанесці ўдары сілавіку Русілаву.

23 снежня ў судзе Маскоўскага раёна Брэста быў вынесены прысуд Аляксандру Бабічу і Міхаілу Шабалюку. Дзяржабвінаваўца папрасіла пакаранне для Бабіча — пазбаўленне волі на 3 гады і 6 месяцаў з адбываннем у калоніі агульнага рэжыму. Для Міхаіла Шабалюка — на тэрмін у 3 гады ва ўмовах калоніі агульнага рэжыму. І менавіта такі прысуд вынес суддзя Яўген Брэган.

***Адрас для лістоў:* *ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.***

### 24 сакавіка

Свой 21-шы дзень народзінаў сустрэне **Мікіта Уладзіміравіч Емяльянаў** — актывіст анархісцкага руху, асуджаны 12.02.2020 года судом Савецкага раёна Мінска да 7 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яго прызналі вінаватымі па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: артыкул 341, частка 1 артыкула 14, частка 2 артыкула 218, частка 2 артыкула 295-3. 27 сакавіка Мінгарсуд па апеляцыйнай скарзе зменшыў тэрмін Мікіту Емяльянаву да 4 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

29 траўня пераведзены на строгі рэжым турэмнага ўтрымання, а 9 чэрвеня этапаваны ў Магілёўскую турму №4.



***Адрас для лістоў:* *Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.***

**Міхаіл Леанідавіч Гладыш** — асуджаны 20 лістапада 2020 года судом Першамайскага раёна Віцебска па арт. 369 Крымінальнага кодэкса (абраза службовай асобы) да двух гадоў абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

Падставай для крымінальнай справы стала абраза камандзіра атраду міліцыі асаблівага рэагавання Манаева ў тэлеграм-чаце «Віцебск для жыцця».

Напачатку лютага накіраваны для адбыцця пакарання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу №39 у Крупках. За кратамі яму споўніцца 41 год.

***Адрас для лістоў:* *Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №39. 222002, Крупскі раён, г. Крупкі-2.***

### 26 сакавіка

Свой 26-ты Дзень народзінаў сустрэне **Дзяніс Марусевіч** — спартсмен з Брэста. Ён майстар спорту па каратэ, рукапашным баі і армейскім рукапашным баі, быў чальцом нацыянальнай зборнай па каратэ. Да 13 ліпеня 2020 года служыў па кантракце ў



38-ай Брэсцкай асобнай дэсантна-штурмавой брыгадзе.

Быў затрыманы 11 верасня ў межах крымінальнай справе аб масавых беспарадках 10 жніўня. Дзянісу інкрымінуецца тое, што ён нібыта кідаў кавалкі асфальту з натоўпу пратэстоўцаў у сілавікоў і нібыта замахнуўся нагой на міліцэйскую машыну. Праз некалькі тыдняў пасля затрымання быў праведзены ператрус, але нічога канфіскавана не было.

Марусевічу прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК — «Удзел у масавых беспарадках».

***Адрас для лістоў:* *СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.***

### 28 сакавіка

24 гады споўніцца **Андрэю Дзмітрыевічу Папову.** Ён вучыўся ў Мінскім каледжы прадпрымальніцтва, атрымаў прафесію менеджара-эканаміста. Перад затрыманнем працаваў гібнікам па метале, а паралельна навучаўся кампутарнай графіцы.

Першы раз Андрэй быў паранены і затрыманы 9 жніўня на акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў. Трое сутак правёў у ІЧУ Жодзіна, пасля чаго быў вызвалены. Зноў Андрэя затрымалі 1 верасня ўжо па крымінальнай справе аб удзеле ў масавых беспарадках.

Яму было прад'яўленае абвінавачанне па ч. 2 арт. 293



Крымінальнага кодэкса — «Удзел у масавых беспарадках».

Суд Заводскага раёна вынес прысуд палітвязню. Яго прызналі вінаватым па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэксу і прысудзілі пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прысуд вынесла суддзя Анжэла Касцюкевіч.

***Адрас для лістоў:* *Следчая турма №8. 222163, Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.***

### 30 сакавіка

За кратамі **Віктару Яўгенавічу Барушку** споўніцца 33 гады. Ён прадпрымальнік, які пасля затрымання 12 дзён правёў у рэанімацыі БХМД і на судзе заявіў пра збіццё. У яго вышэйшая адукацыя, да затрымання працаваў індывідуальным прадпрымальнікам.

Барушку абвінавацілі ў наўмысным прычыненні цяжкага цялеснага пашкоджання ў дачыненні да асобы ў сувязі з ажыццяўленнем ёй службовай дзейнасці (п. 5 ч. 2 арт. 147 КК, да дзесяці гадоў пазбаўлення волі). З 18 кастрычніка 2020 года ён знаходзіцца пад вартай. У той дзень яго затрымалі на Партызанскім праспекце пасля нядзельнага маршу.

Сваю віну Віктар Барушка не прызнаў. Ён настойваў на тым, што 18 кастрычніка ішоў з пратэснага маршу; калі ўбачыў сілавікоў, пачаў уцякаць. Неўзабаве яго збілі з ног — і разам з байцом АМАПу ён упаў на зямлю. У выніку апошні атрымаў пераломам вялікай галёначнай косткі правай нагі, што адносіцца да цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

27 студзеня ў судзе Ленінскага раёна Мінска быў вынесены прысуд Віктару Барушку па справе аб нападзе на супрацоўніка АМАПу і прычыненні яму цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Напярэдадні пракурор



прасіў для яго 5 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Менавіта столькі і прысудзіла яму суддзя Марына Запаснік.

***Адрас для лістоў:* *СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.***

Дваццаць гадоў споўніцца **Дэвіду Масціцкаму.** Ён быў затрыманы 2 верасня па падазрэнні ва ўдзеле ў масавых беспарадках 9 жніўня ў Пінску.

Спачатку яму паведамілі, што ён праходзіць як сведка па справе, распачатай супраць



яго сяброў. Аднак пасля допыту яго не адпусцілі — спачатку затрымалі на 72 гадзіны, а затым (5 верасня) перавялі з СІЗА ў Баранавічах.

Дэвіду Масціцкаму было прад'яўленае абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК.

***Адрас для лістоў:* *СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.***

## Праграма рэабілітацыі

**Каманда грамадскага аб'яднання «Звяно» запусціла праграму рэабілітацыі былых зняволеных.**

Праграма рэабілітацыі распрацаваная ў мэтах сацыялізацыі людзей, якія сутыкнуліся са складанасцямі ў пошуку працы і аднаўленні кантактаў пасля вызвалення, дапамогі ў рэалізацыі іх правоў і інтарэсаў, а таксама для прасоўвання талерантных, паважных і антыдыскрымінацыйных адносін у грамадстве да былых зняволеных. Кожны чалавек, які вярнуўся з месцаў пазбаўлення волі, ужо адбыў тэрмін свайго пакарання і мае права вярнуцца да сябе павагу.

У рамках праграмы можна звярнуцца па бясплатную ананімную псіхалагічную дапамогу і атрымаць кансультацыю сацыяльнага работніка і юрыста, запісацца на курсы па асновах карыстання базавымі кампутарнымі праграмамі, скарыстацца кампутарам і доступам у інтэрнэт.

*+375 29 102 21 21; +375 17 366 84 30*

*Адрас: Ленінградская, 1А, пам. 3. Час працы: 10: 00-18: 00*

*Падрабязнасці на сайце: zvyano.by*



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №459

Падпісана да друку 18.03.2021. 8.00.
Наклад 6000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.